Published by
BYELORUSSIAN-AMERICAN
ASSOCIATION, Inc., U. S. A.
and BYELORUSSIAN
CANADIAN ALLIANCE

# Беларус

ЦАНА — PRICE 50 ¢

Address:
BIELARUS
401 ATLANTIC Ave.
BROOKLYN 17,
NEW YORK, N. Y.

ЧАСАПІС БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER OF NORTH AMERICA

Год XV. № 85-86 | Красавік — Травень 1964 г. | NEW YORK — TORONTO | April — May 1964 | Vol. XV. №. 85-86

# ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ Ў ВАШЫНГТОНЕ, АМЭРЫЦЫ, СЬВЕЦЕ

**46-Я ЎГОДКІ АКТУ 25-ГА САКАВІКА АДЗНАЧАНЫЯ ДАСТОЙНА, МАСАВА, ПАЎСЮДНА**

## PRAYER

**offered March 26, 1964, in the Senate of the United States by The Most Reverend Archbishop Vasili of the Byelorussian Autocephalic Orthodox Church at 46-th aniversary of Proclamation of Independence of Byelorussian National Republic:**

**In the Name of the Father, and the Son, and the Holy Ghost.**

**Almighty God, our Heavenly Father, we lift up our hearts in prayer to Thee, and invoke Thy divine blessings upon our country, the Unitet States of America. Grant Thy guidance and strength; sustain and illuminate with Thy Holy Spirit the heart of all the Members of the Senate, this temple of peace, freedom, and justice.**

**Eternal God and Redeemer, we pray today for Thy divine mercy and judgment for the national welfare of the Byelorussian nation, whose Proclamation of Independence, as the Byelorussian National Republic, was observed 46 years ago, and whose people have striven during these years to free themselves from the tyranny of an atheistic oppression, in the hope of enjoying the liberties and freedom, under God, as is the way in the United States. We pray today that the benefits of freedom granted to democracies all over the world may serve as an infallible encouragement to the people of Byelorussia, for the vision of everlasting freedom is not lost among them, but burns like a torch in the depth of their hearts with the desire to be a member in the family of the free and God-fearing nations of the entire world.**

We humbly bow our heads before Thee, our God and Saviour, and faithfully implore Thee: Accept this, our prayer; bless the Unitet States of America and Byelorussia; reign and shine in our hearts; and be blessed, now and forever. Amen.

## МАЛІТВА

**Яго Высокапраасьвяшчэнства Уладыкі Васіля, архіяпіскапа Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, якая з нагоды 46-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі была прачытаная 26 сакавіка 1964 году на Капітолі ў Вашынгтоне пры адкрыцьці паседжаньня Амэрыканскага Сэнату:**

**У імя Айца й Сына, і Сьвятога Духа. Усемагутны Божа, наш нябесны Войча! Сэрцамі сваімі ў малітве мы зьвяртаемся да Цябе й просім Твайго Боскага благаславенства для нашае краіны, Злучаных Штатаў Амэрыкі. Абдары Тваею мудрасьцяй і сілай, узмацні й прасьвятлі Духам Тваім Сьвятым сэрцы ўсіх сяброў Сэнату, гэтай цьвярдыні супакою, справядлівасьці й свабоды.**

**Прадвечны Божа й Спасе наш! М[illegible] горача сяньня молім Цябе: пашлі Тваю боскую ласку й апеку Беларускаму Народу, які 46 год таму абвесьціў незалежнасьць свае Беларускае Народнае Рэспублікі, і які на працягу ўсяго гэтага часу не перастаў змагацца за сваё вызваленьне зь няволі бязбожных тыранаў, у надзеі, што з Божай дапамогай і ён будзе цешыцца тою воляю й свабодай, што зьяўляюцца асноваю жыцьця ў Злучаных Штатах Амэрыкі. Мы молімся сяньня, каб дабрадзействы свабоды, якія прыносіць дэмакратычны лад усяму вольнаму сьвету, паслужылі добрым прыкладам і заахвочаньнем Беларускаму Народу, бо надзея на свабоду вечную ня згасла сярод яго, але гарыць, як сьветач, у глыбінях іх сэрцаў зь непахіснаю навагаю стацца сябрам сям'і свабодных і Богу верных народаў усяго сьвету.**

**Мы хілім у пакоры галовы свае перад Табою, Божа й Спасе наш, і зь вераю молім Цябе — прымі гэтую малітву нашу, благаславі Злучаныя Штаты Амэрыкі й Беларусь.**

**Хай імя Тваё пануе й зьзяе ў сэрцах нашых і хай будзе благаслаўленае цяпер і на векі вечныя. Амінь.**




**Партрэт Прэзыдэнта ЗША Ліндана Б. Джансана з сваяручным прысьвячэньнем Беларуска-Амэрыканскаму Задзіночаньню. Свой партрэт Прэзыдэнт перадаў Галоўнай Управе Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня з нагоды 46-х угодкаў апавешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі**

## СПРАВА СВАБОДЫ БЕЛАРУСІ Ў СЭНАЦЕ Й КАНГРЭСЕ

Справа свабоды Беларускага Народу падымаецца ў абедзьвюх палатах амэрыканскага парлямэнту пры нагодзе ўгодкаў незалежнасьці Беларусі 25 Сакавіка кажны год і здаўна. Ды ў амэрыканскім Кангрэсе ніколі ня было гэткага шырокага водгуку, як сёлета, з нагоды 46-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі. Сьветчыць гэта аб тым, што ў ЗША, найперш сярод вядучых палітычных кругоў амэрыканскага народу, з кажным годам расьце зразуменьне таго, што пытаньне свабоды паняволеных Масквою народаў, а між імі й Народу Беларускага, сяньня важнае міжнароднае пытаньне, без разьвязаньня якога ня можа быць гутаркі аб справядлівым ладзе на зямлі.

З прамовамі або асьветчаньнямі з нагоды 25 Сакавіка сёлета выступіла 25 прадстаўнікоў абедзьвюх партыяў — дэмакратычнае й рэспубліканскае. Сэнатары й кангрэсмэны ад імя Амэрыканскага Народу й свайго задэманстравалі ў амэрыканскім парлямэньце сваю салідарнасьць зь імкненьнямі Беларускага Народу да свабоднага, незалежнага жыцьця ды выказалі сваё поўнае палітычнае й маральнае падтрыманьне ў ягоным змаганьні за вызваленьне з каляніяльнага прыгону чырвонае імпэрыялістычнае Масквы.

У амэрыканскім Сэнаце свой голас у абароне Беларускага Народу падалі: сэнатар Kenneth B. Keating і сэнатар Jacob K. Javits зь Нью Ёрку ды сэнатар Thomas H. Kuchel з Каліфорніі.

У Кангрэсе ў справе волі Беларусі прамовы мелі або асьветчаньні склалі: кангрэсмэны зь Нью Ёрку Abraham J. Multer, Dem., Robert R. Barry, Rep., Leonard Farbstein, Dem., Edna F. Kelly, Dem., Steven B. Derounian, Rep., John V. Lindsay, Rep., Seymour Halpern, Rep.;

кангрэсмэны зь Нью Джэрзі Milton W. Glenn, Rep., James C. Auchincloss, Rep., Charles S. Joelson, Dem., Dominick V. Daniels, Dem., Peter W. Rodino, Dem.;

кангрэсмэны зь Ілінойс Roland V. Libonati, Dem., Edward J. Derwinski, Rep.;

кангрэсмэны з Огаё Michael A. Feighan, Dem., Robert Taft, Jr., Rep.;

кангрэсмэны з Каліфорніі Bob Wilson, Rep., (двойчы), Glenard P. Lipscomb, Rep.;

кангрэсмэн з Канэктыкут Emilio Q. Daddario, Dem.;

кангрэсмэн зь Мічыган John D. Dingel, Dem.

кангрэсмэн з Мэрылянд Samuel N. Friedel, Dem. :

## BYELORUSSIAN INDEPENDENCE DAY

**Remarks of Hon. JACOB K. JAVITS of New York in the Senate of the United States on March 26, 1964.**

Mr. President, the 46th anniversary of the day in 1918 when the Byelorussian Democratic Republic proclaimed its independence was celebrated this year on March 23. It marks the determination of an ancient people to maintain their identity apart from the Russian conqueror and to keep alive the hope of eventual liberty and independence.

Under Soviet domination the Byelorussian people have been subjected to ruthless persecution, economic exploitation, and harsh oppression. Their efforts to assert independence have been crushed by mass deportations, imprisonment, and executions. Their hopes are with us, and we should continue to press the issue of freedom in the United Nations and to focus world attention to the injustice suffered by the Byelorussian people. They reflect the indomitable spirit of men who are willing to fight and die for freedom.

**Зь Вялікоднымі Сьвятамі**
**Праваслаўных Беларусаў**
**— вітае —**
**Галоўная Ўправа БАЗА**
**Рэдакцыя „Беларуса"**

**Remarks of Hon. THOMAS H. KUCHEL of Calofornia, in the Senate of the United States on March 30, 1964.**

Mr. President, most Americans are aware of the brave struggles of the three Baltic nations — Estonia, Latvia, and Lithuania — to throw off the oppressive yoke of Soviet Russian dictatorship. But many Americans are not aware of the equally determined struggles of a fourth Baltic-area nation — the Byelorussian Republic — to shake off the chains of Communist domination and achieve freedom and independence.

Byelorussia is the third largest constituent republic in the Soviet Union and contiguous with the eastern boundaries of Estonia, Latvia, and Lithuania. Its 8 million inhabitants have a national history dating back almost seven centuries. Tragically, that history is comprised mainly of an endless struggle to gain independence from imperialist Russia.

Unification of the Byelorussian territories began early in the 13th century, first around Navahradak and then around Vilna. By the 15th and 16th centuries the nation reached the zenith of its military might and economic and cultural development. The Byelorussian people succeeded in passing on their civilization and language to neighboring provinces. Administratively the nation reached a level equal to that of the most advanced states of Western Europe, with which it maintained friendly the fortunes of war.

In the late 16th century, czarist Russia successfully drove back the invading Mongols and then turned its imperialistic eyes westward toward Byelorussia. In 1563 the Russian hordes, led by Ivan the Terrible, entered Polacak, one of the principal cities, and almost all the inhabitants were massacred, the population falling from 100,000 to 3,000 in less than a year.

For the next 2 centuries, Byelorussia became a pawn in a mighty chessboard battle between Russian and Poland. Yearning for its own independence, the small nation shifted between Polish and Russian domination depending on the fortunies of war.

In the 19th century, Byelorussia came permanently under Russian control and the people were subjected to the same Russianization experience in all the Baltic nations at that time. The University of Vilna was suppressed and all its libraries and faculties shipped to Russia proper. No high schools of any kind were permitted on Byelorussian territory, not even those using the Russian language. The Uniate Church, the major national religious group in Byelorussia, was abolished, its property confiscated, and its priests and monks deported. A total ban was imposed on all printed works in the Byelorussian language, even those of a religious nature.

The ravages of World War I gave the Byelorussians their first real opportunity to win their independence. Overjoyed at the overthrow of the Russian Czar in 1917, they assembled in national congress at Minsk. The Bolshevik rulers of Russia tried to suppress this meeting by having Joseph Stalin, then Commissar for Nationality Affairs, surround the Congress building with a Siberian armored infantry division. The members of the assembly refused to be stopped, however, and met in a locomotive repair shop in order to plan their next move.

That move was made on March 25, 1918, when Byelorussia proclaimed its independence and adopted a provisional constitution. The constitution guaranteed freedom of speech and assembly, the right to form labor unions, the right to strike, liberty of conscience, the inviolability of the person and the home, and the equality of all citizens. In industry, an 8-hour day was introduced.

After declaring its independence, Byelorussia was accorded de jure recognition by over a dozen foreign states, But that independence was short lived. At the treaty of Brest-Litovsk, the Bolsheviks signed a peace treaty with the Germans permitting the Kaiser's troops to occupy three-quarters of the Byelorussian territory. Opposed to the social policies of the new government, the Germans disarmed the Byelorussian armies, thereby leaving the tiny nation defenseless at the end of World War I when the German army retreated and the Red Army advanced unopposed.

Her brief period of independence over, Byelorussia's history since World War I has been similar to her history for centuries before that. She has shifted back and forth between Russia, Poland, and Germany, all depending on the fortunes of war at the particular moment. Today she is totally under the yoke of Soviet Russian rule and efforts to suppress the Byelorussian national identity which began under the czars continue unabated.

It is fitting and proper that we in the United States should mark the 46th anniversary of the Byelorussian declaration of independence. The seven centuries' struggle of these oppressed peoples to form their own nation and determine their own fate demands the support and respect of freemen and free nations everywhere. The totalitarian walls of the Iron Curtain must never be allowed to obscure the never-ending struggle of the Byelorussian people to determine their own free destiny.

**П А Д З Я К А**

**Усім беларускім арганізацыям, установам і паадзіночным асобам, што прывіталі нас з нашым нацыянальным сьвятам — 46-мі ўгодкамі абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, складаем на гэтым месцы шчырую падзяку.**

**Галоўная Управа БАЗА**

# ЗАЯВЫ Ў АМЕРЫКАНСКІМ КАНГРЭСЕ Ў УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

## ПРАДСТАЎНІКІ ВОЛЬНАГА НАРОДУ АМЭРЫКАНСКАГА ВІТАЮЦЬ ПАНЯВОЛЕНЫ НАРОД БЕЛАРУСКІ

Сялетняе масавае выяўленьне спагадлівае прыхільнасьці амэрыканскіх кангрэсмэнаў Беларускаму Народу з нагоды 46-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі было асабліва імпазантным і зьместам прамоваў і лікам самых выступаў.

**Пры нагодзе трэба адцеміць важны факт, што ў сваіх прамовах і асьветчаньнях бальшыня выступаючых яўна карысталася з гістарычных і статыстычных дадзеных зьмешчаных у нядаўна выдадзенай паангельску брашуры „Byelorussia", якая была сваячасова разасланая Галоўнаю Ўправаю Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ўсім сэнатарам і кангрэсмэнам.**

### Hon. MILTON W. GLENN of New Jersey

...Я спагадаю народам паняволеным расейскім камунізмам і дзеля гэтага карыстаю з гэтае нагоды, каб аддаць пашану Беларускаму Народу ў дзень ягонае незалежнасьці... Намаганьні Масквы задушыць нацыянальныя імкненьні Беларусоў не ўдаліся. 25 Сакавік сьвяткуецца гэтым упорыстым сьмелым народам на ўсім вольным сьвеце... Будзе на месцы калі й мы спынімся на часіну, каб адзначыць змаганьне Беларусоў за сваё вызваленьне.

### Hon. ROLAND V. LIBONATI of Illinois

...46-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі адзначаем у смутку... Сяньня Беларусь калёнія Расеі... Паняволеныя народы шукаюць нашае дапамогі для справы свайго вызваленьня... Права на самавызначэньне не павінна быць абмежана толькі для народаў Азіі й Афрыкі, яно абыймае й народы ў падсавецкім ярме...

### Hon. EDWARD J. DERWINSKI of Illinois

...Нажаль, падобна да мілёнаў іншых ахвяраў камуністычнага імпэрыялізму й каляніялізму, Беларускі народ пазбаўлены права на самавызначэньне й знаходзіцца ў палоне тыраніі за зялезнаю заслонай... Свабода й бясьпека ўсяго сьвету будзе ў загрозе датуль, пакуль народы будуць гібець у камуністычным ярме. Беларускі народ сымбаль гэтага, і я пэўны, што ягоныя нацыянальныя імкненьні перамогуць з часам тыранію.

### Hon. JAMES C. AUCHINCLOSS of New Jersey

...Мы сяньня сьвяткуем Дзень Незалежнасьці Беларусі — яшчэ аднае рэспублікі, захопленае й пад'ярэмлянае камуністычнай Расеяй... Туга па свабодзе й вера ў справу свае незалежнасьці ніколі не памрэ... У сяньняшні дзень усе Беларуцы заяўляюць аб сваей наважанасьці адрадзіць сваю рэспубліку вольнаю ад панаваньня тыраніі...

### Hon. ABRAHAM J. MULTER of New York

...Змаганьне за сваё існаваньне як нацыі Беларусы вядуць ад стагодзьдзяў... У дзень 46-х угодкаў Дня Незалежнасьці мы ўсе выражаем сваю надзею й адначасна молімся за вызваленьне Беларускага Народу ад камуністычнае таталітарнае тыраніі.

### Hon. PETER W. RODINO of New Jersey

...Кажны год мы адзначаем дзень 25 Сакавіка як угодкі вялікага значэньня для амэрыканскіх грамадзянаў беларускага паходжаньня й для Беларусоў, што жывуць у краёх вольнага сьвету, а таксама і ў самой Беларусі, акупаванай сяньня савецкай Расеяй... У выніку генасыднае палітыкі савецкае Расеі Беларусь згубіла каля 6-ці мілёнаў свайго жыхарства... Праводзіцца фарсоўная русыфікацыя Беларусі... Расейская Камуністычная Партыя й урад паставілі сабе заданьне поўнага зьліцьця нерасейскіх народаў СССР у вадзін савецкі Расейскі народ... Расейцамі абсаджаныя ўсе кіраўнічыя становішчы краю... Цэрквы замыкаюцца... Вядзецца нясупынная дэпартацыя Беларусоў на цалінныя прасторы Азіі. Ува ўсіх галінах жыцьця прасьлед на месца свабоды. Ды, хоць Беларусы сяньня й жывуць не пад правам, а пад ярмом, яны ня згубілі надзеі быць вольнымі...



Беларуская дэлегацыя на Капітолі ў Вашынгтоне з нагоды 46-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі. Пачынаючы зьлева: віцэстаршыня Галоўнае Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. М. Тулейка, старшыня Беларускага Жаноцкага Згуртаваньня сп-ня Вера Бартуль, сэнатар Дж. К. Джэвітс, Архіяпіскап БАПЦ Ўладыка Васіль, сэнатар Ф. Дж. Ляўшэ, сэнатар К. Б. Кітынг і старшыня Галоўнае Управы БАЗА д-р Ст. Станкевіч.

### Hon. BOB WILSON of California

...Беларусь сяньня, як і ейныя суседзі — Летува, Латвія й Польшча, — паняволеная камунізмам... Беларусы не перастаюць верыць у адбудову свае дэмакратычнае ўлады, якую зьнішчылі Саветы... Я пэўны, што ўсе Амэрыканцы згодныя са мною ў выказваньні свайго спачуваньня гэтаму гераічнаму народу, і ў надзеі таго, што ён, як і іншыя паняволеныя народы, некалі йзноў пабачаць сьвятло свабоды... Беларускія ўгодкі мы павінны адзначыць сваею навагаю вызваленьня гэтага геройскага народу й пастановаю аб спыненьні недарэчнага дапамаганьня і ўзбройваньня Савецкага Саюзу неразумнымі ўрадаўцамі нашага-ж ураду.

### Hon. CHARLES S. JOELSON of New Jersey

...Беларусы абвесьцілі сваю незалежнасьць 25 Сакавіка 1918 году... Гэтая эпахіяльная падзея ў гісторыі Беларусі.... адзначаецца цяпер усімі Беларусамі як нацыянальнае сьвята... Сяньня Беларусы лятуцяць аб той пары, калі зьненавіджаны камуністычны рэжым будзе скінуты, і яны йзноў будуць дыхаць сьвежым паветрам свайго вольнага краю. Я з радасьцяй далучаюся да Амэрыканцаў беларускага паходжаньня ў урачыстым адзначаньні Дня Незалежнасьці Беларусі.

### Hon. DOMINICK V. DANIELS of New Jersey

...Намаганьні Масквы зьнішчыць нацыянальныя імкненьні Беларусаў не ўдаліся... Беларусы не зракліся надзеі вярнуць дэмакратычную ўладу тае свае рэспублікі, якую калісьці Саветы зруйнавалі.

### Hon. SAMUEL N. FRIDEL of Maryland

...Цяперашняя Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, гэта нявольніца Расеі, і яна не рэпрэзэнтуе Беларускага Народу... Я пэўны, што гэта будзе на добро Беларускага Народу, калі мы сяньня ў гэтай Высокай Палаце спынімся на часіну для тога, каб заявіць перад усім сьветам, што гэты народ мае нашае маральнае падтрыманьне ў змаганьні супроць злых сілаў уціску й цемры ды ў абароне ягоных нацыянальных і палітычных правоў.

### Hon. SEYMOUR HALPERN of New York

...Беларусы абвесьцілі незалежнасьць свае Беларускае Народнае Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году... У 46-я ўгодкі народы вольнага сьвету помняць добра адважнае змаганьне Беларускага Народу за сваю свабоду й незалежнасьць.

### Hon. MICHAEL A. FEIGHAN of Ohio

...Зь вялікаю прыемнасьцяй падымаю свой голас у абароне вольнае незалежнае Беларусі й для ўсхваленьня народу гэтага краю за яго змаганьне супроць расейскага імпэрыялізму... Важна адцеміць, што Рада (Беларускае Народнае Рэспублікі) прыняла канстытуцыю з гваранцыяй свабоды слова й сходаў, свабоды сумленьня, пашаны асобы й незачэпнасьці памешканьня, права работнікам арганізавацца й страйкаваць, ахову нацыянальных мяншыняў і роўнасьць усіх грамадзян перад правам... Ня менш 12-ці народаў прызнала дэ юрэ рэспубліку. Сяньня Беларусь пад палітычнай і мілітарнай акупацыяй Расеі...

### Hon. ROBERT TAFT of Ohio

...Усе Амэрыканцы беларускага паходжаньня не прызнаюць рэжыму ў краіне іхных продкаў. У 46-я ўгодкі незалежнасьці Беларусі мы далучаемся да іх і выражаем надзею, што з часам гэты народ дасягне свае нацыянальнае мэты, здабудзе сваю незалежнасьць і свабоду.

### Hon. ROBERT R. BARRY of New York

...Як можа быць шчасьлівым той народ, якога паняволілі сілай, а пануюць над ім тыраніяй і татальным уціскам...

### Hon. LEONARD FARBSTEIN of New York

...Калі прыйдзе той дзень, які мусіць прыйсьці, калі ўсе народы Ўсходняе Эўропы запатрабуюць сабе свабоду... Беларусь тады здабудзе йзноў сваю незалежнасьць, і Беларускі Народ здабудзе магчымасьць ужыцьцявіць сваю веру ў дэмакратычныя ідэалы, як ён выказаў гэта ў 1918 годзе... Тады Дзень Незалежнасьці Беларусі атрымае сваё новае значэньне, і нашыя тут словы будуць мецЬ большую вагу...

### Hon. EDNA KELLY of New York

...Беларуская Рэспубліка заламалася пад навалаю чырвонае арміі... Эканамічная эксплятацыя, палітычныя чысткі й фарсоўная культурная асыміляцыя сталі брутальнаю штодзённаю запраўднасьцяй... Дзяржаўная незалежнасьць стала лятуценьнем і надзеяй. І гэтыя лятуценьні й надзеі жывыя й сяньня. Іхная рэалізацыя павінна быць імкненьням і ўсіх тых народаў, якія ведаюць, што значыць жыць у свабодзе.

### Hon. STEVEN B. DEROUNIAN of New York

...Будзе вельмі на месцы, калі мы спынімся на часіну для тога, каб адзначыць Дзень Незалежнасьці Беларусі. Калі мы верым у свабоду, мы павінны надзею на яе несьці ўва ўсе часьці сьвету... Беларусь мае поўнае права на незалежнасьць і на свой собскі шлях да шчасьця, што адмаўляе ёй Расея... Нашае сьвяткаваньне Незалежнасьці Беларусі няпоўнавартаснае да тае пары, пакуль сьвяткаваць яго ня мае магчымасьці сам Беларускі Народ.

### Hon. JOHN V. LINDSAY of New York

...Маю гонар выказаць сваю пашану таму гераічнаму Беларускаму Народу, які 46 год таму абвесьціў сваю незалежнасьць, але пасьля гэтага церпіць пад уціскам камуністычнага рэжыму Савецкага Саюзу... Канстытуцыя, напісаная беларускім незалежным урадам, што паўстаў у 1918 годзе, гварантавала свабоду слова й сходаў, права засноўваць прафэсійныя арганізацыі, права страйку, свабоду сумленьня, незачэпнасьць асобы й памешканьня, правы нацыянальных мяншыняў і роўнасьці грамадзян перад правам. Гэтае шырокае паймо свабоды Беларусы ўважаюць за сьвятое. Трагэдыя, што Беларусы згубілі права на ажыцяўленьне гэтых ідэалаў хутка пасьля таго, як абвесьцілі сваю незалежнасьць... Але Беларусы ня згубілі веры ў гэтыя ідэалы й ня згубілі надзеі на тое, што калісьці будуць жыць свабодна... Амэрыканцы беларускага паходжаньня й іхныя суродзічы штогод прыпамінаюць сьвету тое, што імкненьні іхныя няўміручыя. Вельмі актыўнае ў гэтым Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне... Гэта вялікі мне гонар далучыцца да іншых маіх сяброў пры ўшанаваньні гэтага гераічнага народу й запэўніць, што разам зь імі й мы надзеімся на тое, што Беларусь здабудзе йзноў сваю свабоду й што гэта станецца хутка.

### Hon. GLENARD P. LIPSCOMB of California

...25 Сакавік гэта дзень дзяржаўнае незалежнасьці для ўсіх свабодных і свабодалюбных Беларусоў... Гэта дзень, калі Беларускі Народ скінуў свае ланцугі... Ды самога сьвяткаваньня ўгодкаў незалежнасьці мала. Мы мусім увесь час гаварыць пра свабоду й даць для сьвету найлепшы прыклад дэмакратычнага ладу жыцьця. Толькі гэтым шляхам Беларусы змогуць утрымаць свой рэзыстанс супроць вялікіх крывадушных абяцанак камунізму. Толькі гэтым шляхам Беларусы йзноў стануць вольнымі.

### Hon. EMILIO Q. DADDARIO of Connecticut

...25 Сакавіка гэта ўгодкі абвешчаньня Беларускае Народнае Рэспублікі... Адзначаючы штогод гэтыя ўгодкі, мы ўшаноўваем адважны гераізм і наважанасьць Беларускага Народу, што быў змушаны змагацца з Польшчай, Нямеччынай, Расей для тога, каб ахаваць сваю свабоду... Ход гісторыі пазьней быў трагічны для гэтага гераічнага народу... Будзе правільным, калі мы станем побач Беларускага Народу на ўсіх франтох сучаснага сьвету ў адданасьці справе свабоды й незалежнасьці Беларусі.

### Hon. JOHN D. DINGELL of Michigan

...У 1918 годзе... 25 сакавіка... беларускія правадыры абвесьцілі незалежнасьць Беларусі й заснавалі Беларускую Народную Рэспубліку. Гэты гістарычны дзень быў пачаткам новае эры для Беларускага Народу... Але... доля была жорсткаю для Беларусаў... Чырвоная армія заліла Беларусь, і край стаў часткаю Савецкага Саюзу... Ад тае пары свабодалюбныя, спакойныя Беларусы церпяць пад камуністычнай таталітарнай тыраніяй. Пры адзначаньні 46-х угодкаў незалежнасьці будзем надзеіцца й маліцца за іхнае вызваленьне спад гэтае тыраніі.

### МАЛІТВА Ў КАНГРЭСЕ

Таго самага 26 сакавіка 1964 г., у якім а 9-ай гадзіне раніцы паседжаньне амэрыканскага Сэнату малітваю за Злучаныя Штаты Амэрыкі й Беларусь адкрываў Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Уладыка Васіль, у амэрыканскім Кангрэсе а 12-ай гадзіне малітву прачытаў сьвятар юрысдыкцыі Грэцкае Праваслаўнае Царквы, пратаерэй Мікола Лапіцкі.

## І МАСКВА "АДЗНАЧЫЛА" УГОДКІ БНР

(Заканчэньне з б. 2).

чаргу каляніяльнай залежнасьці сваей собскай бацькаўшчыны, што стогне пад маскоўска-бальшавіцкім акупантам.

Пятрусь Броўка ў артыкуле „Літаратура майго народу" намагаецца пераканаць амэрыканскага чытача, што толькі пры савецкай уладзе беларуская літаратура й мастацтва здабылі шырокія магчымасьці поўнага й усебаковага разьвіцьця. Але Броўка забыўся ўспомніць, што якраз савецкая ўлада фізычна зьнішчыла многія дзесяткі таленавітых беларускіх паэтаў, пісьменьнікаў, навукоўцаў, мастакоў і наагул дзеячоў беларускай культуры. Праўда, сяньня многіх зь іх рэгабілітуе, але ў васноўным рэгабілітуе адно іхныя імёны, трымаючы й надалей найлепшыя іхныя творы пад цэнзурнай забаронай.

Няма найменшага сумлеву, што выданьне прысьвечанага Беларусі нумару „СССР" якраз у сакавіку, калі Беларусы ў вольным сьвеце адзначалі 46-ыя ўгодкі абвешчаньня запраўднай незалежнасьці свае бацькаўшчыны, ня было справай звычайнага прыпадку. Быў для гэтага выбраны месяц сакавік якраз таму, каб знэўтралізаваць і абніжыць палітычную вагу маніфэстацыі ўзапраўды незалежніцкай ідэі Беларусамі ў вольным сьвеце. Гэтую няпрыпадковасьць добра разгадалі й вядучыя амэрыканскія палітыкі.

Гэтак кангрэсмэн М. Фэне, прамаўляючы 25 сакавіка ў Кангрэсе ў чэсьць 46-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, між іншым адцеміў: **„Будзе на месцы запытаць, чаму сакавіковае выданьне „СССР" прысьвечанае „Сувэрэннай Рэспубліцы Беларусі". Адказ просты. Масква ведае аб змаганьні пражываючых у вольным сьвеце Беларусаў дзеля вызваленьня свае нацыі з расейска-камуністычных ланцугоў. Таксама Масква ведае й аб змаганьні, ведзеным у Беларусі, каб скінуць гэныя ланцугі. Сакавіковае выданьне „СССР" — гэта няўдалае й ачавіднае намаганьне Масквы здыскрэдытаваць законныя імкненьні Беларусаў, што жывуць у Задзіночаных Штатах, каб умацоўваць ідэю незалежнасьці. 25 Сакавік ёсьць Днём Беларускай Незалежнасьці — а ня днём беларускай „сувэрэннасьці" ў савецкім разуменьні. Больш таго, Беларусь у ланцугох ня можа быць сувэрэннай — яна паняволеная нацыя".**

Гэтым парадкам, бальшавіцкі няўдалы выстрал супраць вызвольна-незалежніцкіх імкненьняў беларускага народу быў зьвернуты рыкашэтам супраць іх саміх.

**Алесь Крыга**

# 25 САКАВІКА Ў АМЭРЫЦЫ - ЭЎРОПЕ - АЎСТРАЛІІ

## 25 САКАВІКА Ў НЮ ЁРКУ

Сакавіковая Акадэмія ў Ню Ёрку, ладжаная Управай Акругі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Ню Ёрк і Беларускім Кангрэсавым Камітэтам, адбылася ў нядзелю 22 сакавіка. Пасьля Богаслужбаў у Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве імя Кірылы Тураўскага ў Брукліне й беларускай праваслаўнай царкве ў Саўт Рывэры, адбылася ўрачыстая Акадэмія ў залі гатэлю „Астор".

Галоўнымі пунктамі афіцыйнай часткі Акадэміі былі два даклады на тэму ўгодкаў: сп. С. Каўша ад Беларускага Кангрэсавага Камітэту ў беларускай мове й сп. інж. В. Мельяновіча — ад Акругі БАЗА ў ангельскай мове. Сп. Коўш ня змог паўстрымацца, каб ня выкарыстаць сьвяткавальнай трыбуны дзеля чыста дэмагагічных нападаў па лініі рэпрэзэнтаванай ім групы супраць сваіх палітычных праціўнікаў у радох БАЗА. А гэта ня шлях да супрацоўніцтва й задзіночаньня, якое на словах асабліва любіць прапагаваць гэная група. Затое даклад інж. Мельяновіча быў на ўзроўні, поўнасьцяй аб'ектыўны, старанна апрацаваны й прачытаны беззаганнай ангельскай мовай.

Тады выступіў з кароткай прамовай сп. Джэмс О'Біен — прадстаўнік мэра гораду Ню Ёрку сп. Р. Вагнэра — прачытаў праклямацыю аб абвешчаньні ў Ню Ёрку дня 25 сакавіка Днём Незалежнасьці Беларусі. З прывітальнымі прамовамі выступалі: Архіяпіскап-Прымат Сырыя-Антыёхійскай Царквы Ф. Вількі, старшыня Фэдэрацыі Хрысьціянскіх Цэркваў Індыі Рамкрышна Шагу Модак, старшыня Украінскага Работніцкага Саюзу сп. А. Бацюк, старшыня Украінскага Народнага Саюзу й прадстаўнік Украінскага Кангрэсавага Камітэту сп. Я. Лысагір, старшыня Альбанскага Камітэту Вызваленьня сп. В. Джэрмэні, рэдактар украінскай газэты „Свабода" сп. В. Душнік, інж. В. Гласкоў ад Казацкага Прадстаўніцтва за мяжой і атаман Білый ад Казацкага Нацыянальнага Руху. У канцы афіцыйнай часткі была прынятая адпаведная рэзалюцыя.

Далей адбылася мастацкая частка. Першым ейным нумарам было выступленьне Жаноцкага Хору із Саўт Рывэру „Каліна" пад кіраўніцтвам кампазытара Ксавэрага Барысаўца. Хор выканаў наступныя песьні: „Ой, ты край мой" — муз. Е. Зубковіч, словы М. Кавыля; „Ціхі вечар" — муз. В. Вагнэра, словы А. Русака; „Каля Нёмана" — муз. К. Барысаўца, словы А. Русака; „Явар і каліна" — муз. Я. Семянякі, словы Я. Купалы; „Цераз сад вінаград" — народная; „Васількі" — муз. К. Барысаўца, словы Н. Арсеньневай.

Пасьля жаноцкага хору выступіла беларуская салістка сп-ня А. Маркоўская, якая выканала дзьве песьні: „Песьня Алесі" з опэры „Алеся" (словы П. Броўкі, муз. Цікоцкага) і „Вясна ў полі" (словы А. Гаруна, муз. Е. Зубковіч), ды яшчэ адну песьню на біс. Сп-ня Гіль-Ярашэвіч выканала народную песьню „Палыночак", „Месячыку ясны" (словы У. Жылкі, муз. М. Куліковіча), „Зязюля" (словы Н. Арсеньневай, муз. Е. Зубковіч) ды на біс выканала марш „Дэі Ардыты". Пры фартапіяне акампаньявала салісткам праф. Е. Зубковіч.

Наапошку выступіў мяшаны хор із Саўт Рывэру пад кіраўніцтвам кампазытара Д. Верасава, які выканаў наступныя песьні: „Раса" — муз. К. Барысаўца, словы А. Салаўя; „Поле, поле" — муз. Д. Верасава, словы М. Кавыля; „Разьвівайся сыры дубе" — беларуская народная песьня; „Павей вецер дарогаю" — муз. К. Галкоўскага; „Вясёлы майстра" — муз. М. Равенскага, словы А. Кавалеўскага. У міжчасе былі й салёвыя выступленьні, зь якіх заслугоўвае на ўвагу памастацку выкананая сп-няй Р. Касьцюк ведамая з грамафоннай пліткі песьня „Ліст" (муз. Д. Верасава, словы М. Сяднёва). Мастацкая частка была закончаная баёвым маршам.

## САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ Ў НЮ ДЖЭРСІ

Старанна й эфэктоўна было праведзенае сьвяткаваньне 46-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў Ню Джэрсі — у горадзе Ню Брансьвіку. Яшчэ 10 сакавіка дэлегацыя мясцовага аддзелу БАЗА й ЗБМА разам із старшынём Галоўнай Управы БАЗА д-рам Ст. Станкевічам наведалі сталіцу гэтага штату Трэнтон, дзе былі прынятыя на спэцыяльнай аўдыенцыі губэрнатарам Рычардам Юджам. Губэрнатар у прысутнасьці дэлегацыі падпісаў праклямацыю аб абвешчаньні ў штаце Ню Джэрсі дня 25 сакавіка Днём Незалежнасьці Беларусі і ўручыў яе старшыні аддзелу БАЗА сп. С. Гутырчыку. Прадстаўнікі аддзелу Згуртаваньня Беларускае Моладзі прышпілілі губэрнатару значок сваей арганізацыі ў знак прыняцьця яго ганаровым сябрам Згуртаваньня.

Дзень 25 сакавіка быў абвешчаны Днём Беларускай Незалежнасьці й бурмістрам гораду Ню Брансьвік Чэстэрам Паўлюсам ды быў вывешаны ў гэты дзень на гарадзкой ратушы, побач з амэрыканскім, беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. Дзень 25 сакавіка быў абвешчаны



Губэрнатар штату Ню Джэрсі падпісвае Праклямацыю абвешчаньня дня 25 Сакавіка „Днём Беларускай Незалежнасьці". Пачынаючы зьлева, сядзяць: Аня Стома (ад ЗБМА), губэрнатар Рычард Гюз, Радаслаў Войтэнка (ад ЗБМА); стаяць: Д-р Ст. Станкевіч — старшыня Галоўнай Управы БАЗА, М. Каранеўскі — заступнік старшыні аддзелу БАЗА ў Ню Джэрсі, С. Гутырчык — старшыня аддзелу БАЗА ў Ню Джэрсі, д-р У. Бакуновіч. (Фото А. Сільвановіча).

Днём Незалежнасьці Беларусі й бурмістрам Саўт Рывэру, але вывесіць беларускі сьцяг было адмоўлена. У гэтай справе бурмістр Саўт Рывэру, паклікаўшыся ў афіцыйным лісьце да аддзелу БАЗА на тое, што „Сп. Занкавіч прыслаў мне цікавы ліст аб вашых цяжкасьцях у здабыцьці незалежнасьці", паведаміў: „Каб не ствараць прэцэдэнсу мы пастанавілі ня вывешваць сьцягу". Выглядае, што адмова бурмістра вывесіць беларускі сьцяг была ў некай сувязі зь лістом сп. Е. Занкавіча, сябры Беларускага Кангрэсавага Камітэту. Дзень Незалежнасьці Беларусі быў таксама абвешчаны і ў горадзе Пасэйку гэтага-ж штату.

Сакавіковая Акадэмія адбылася ў Ню Брансьвіку на каталіцкі Вялікдзень 29 сакавіка ў залі найвялікшага ў горадзе гатэлю (Рогэр Сміт Гатэль). Была яна папярэджаная Божай Службай у мясцовай беларускай царкве Жыровіцкай Божай Маці, адпраўленай пратаярэем С. Войтэнкам, які сказаў глыбока-патрыятычнае казаньне.

Урачыстую Акадэмію адкрыў Старшыня Аддзелу БАЗА Спадар С. Гутырчык прывітальнаю прамоваю. Вёў акадэмію д-р В. Васілеўскі. На пачатку урачыстасьці былі прачытаныя праклямацыі губэрнатара штату й бурмістра гораду Ню Брансьвіку аб абвешчаньні Дня Незалежнасьці Беларусі ды прачытаньня шматлікія прывітаньні ад сэнатараў і кангрэсмўнаў із штату Ую Джэрсі ды іншых амэрыканскіх прадстаўнікоў.

З дакладам у ангельскай мове аб Акце 25 Сакавіка й зьвязанымі зь ім падзеямі выступіў сп. Васіль Русак. Старанна апрацаваны даклад даў яснае ўяўленьне аб падзеях, што разыграваліся ў Беларусі ў 1917-1918 гадох і прывялі да абвешчаньня незалежнасьці нашай бацькаўшчыны. Пасьля яго даклад аб 25 Сакавіку ў беларускай мове прачытаў д-р Ул. Бакуновіч.

Далей выступіў з прамовай старшыня Галоўнай Управы БАЗА д-р Ст. Станкевіч. Ён падчыркнуў, што не зважаючы на спэцыфічна беларускія няшчасьці, якімі пакрыўдзіла нас гісторыя, беларускі народ усё-ж змог праявіць гэтулькі нацыянальнай моцы й вытрываласьці, што Актам 25 Сакавіка заявіў усяму сьвету аб сваім нязломным жаданьні жыць вольным і незалежным жыцьцём у сям'і вольных народаў сьвету. У гэтым і выявілася вялікая жыцьцёвая сіла й нязвычайныя творчыя здольнасьці беларускага народу, у гэтым і цьвёрдая зарука, што сьвятыя ідэі 25 Сакавіка будуць ажыцьцёўленыя. Наступным прамоўцам быў віцэ-старшыня Рады БНР праф. А. Адамовіч. Прывітаўшы прысутных ад імя Рады БНР і ейнага прэзыдэнта сп. М. Абрамчыка ды падчыркнуўшы ўдзельную вагу Ню Брансьвіку ў нашым нацыянальным жыцьці ў Амэрыцы, ён прачытаў адрыўкі із звароту прэзыдэнта Рады БНР, які цераз радыё быў перададзены на бацькаўшчыну.

Зь цёплымі прывітальнымі прамовамі выступалі — старшыня мясцовага аддзелу Рэспубліканскай Партыі сп. Гэнры Білемэйер, старшыня Украінскага Кангрэсавага Камітэту ў Ню Джэрсі інж. Д. Гэча й прадстаўнік Грэцкага Нацыянальнага Цэнтру ў Ню Джэрзі сп. Т. Карвэляс. Акадэмія закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Выступленьні прамоўцаў былі ўмела пераплятаныя мастацкімі выступленьнямі. Гэтак, Акадэмія пачалася амэрыканскім нацыянальным гімнам, які прыгожа прапяяла сп-ня Галіна Орса. Яна-ж пазьней прапяяла солё яшчэ дзьве патрыятычныя песьні: „Родны край" (муз. К. Барысаўца, словы Н. Арсеньневай) і „Край красы" (муз. К. Барысаўца, словы М. Кавыля). У іншай частцы Акадэміі сёстры Галіна Орса й Аля Орса-Романо прыгожа й пачуцьцёва прапяялі дуэтам „Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні" (словы Я. Купалы, муз. М. Куліковіча) і „Я веру зноў" (словы А. Бялевіча, муз. М. Куліковіча).



Бурмістр Ню Брансьвіку Чэстэр Паўлюс падпісвае Праклямацыю абвешчаньня „Дня Незалежнасьці Беларусі" ў прысутнасьці прадстаўнікоў аддзелу БАЗА ў Ню Джэрсі. (Фото А. Сільвановіча).

Агульным прызнаньнем цешылася выкананьне сябрамі ЗБМА беларускага народнага танцу „Крыжачок". Група малых вучняў мясцовай беларускай школы Тамара Стагановіч, Коля Швэд і Галіна Кажура добра прадэклямавалі верш Я. Коласа „Беларускаму люду". Ірэна Азарка прадэклямавала верш М. Багдановіча „Васількі" й „Родны край", а Лёля Гутырчык прапяяла прыгожым голасам „Я ад вас далёка" на словы Я. Купалы. Да ўсіх салёвых выступленьняў акампаньявала на фартапіяне сп-ня праф. Е. Зубковіч.

Пасьля Акадэміі ў залі таго-ж гатэлю адбыўся супольны банкет. У прамовах тут ужо закраналіся пераважна справы мясцовага беларускага жыцьця й дзейнасьці. Банкет закончыўся адсьпяваньнем патрыятычнай малітвы „Магутны Божа".

Неабходна адцеміць, што якраз у Ню Брансьвіку найшырэй выявіўся ўдзел адказных амэрыканскіх дзейнікаў у сьвяткаваньні ўгодкаў незалежнасьці Беларусі. Гэтак, на рукі мясцовага аддзелу БАЗА прыслалі абшырныя й зычлівыя прывітаньні абодвы сэнатары з гэтага штату сп. сп. К. Кэйз і Г. Вільямс і наступныя кангрэсмэны: сп. сп. М. Глін, Дж. Аўчынклёс, Ф. Томпсон, П. Фрылінгаўзэн, Ф. Дуер, Ч. Джэльсон, Ф. Осмэрс, П. Родзіно, Дж. Мініш, Дж. Вальгаўзэр, К. Галягэр, Д. Даньельс і Э. Патэн. Такім парадкам, на ўсіх пятнаццаць кангрэсмэнаў з гэтага штату вітала Беларусаў зь іхным Днём Незалежнасьці аж трынаццаццёх. Гэткі жывы й беспасярэдні ўдзел амэрыканскіх дзейнікаў у вадзначэньні ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі мае сваю глыбокую вымову. Гэта сьветчыць, што беларускі народ і ягоныя нацыянальна-вызвольныя імкненьні маюць зразуменьне, сымпатыю й спачуваньне сярод амэрыканскага народу.

### ПАДЗЯКА

Галоўная Управа БАЗА выказвае на гэтым месцы глыбокую падзяку Д-ру Барысу Кіту за ягоную выдатную помач, аказаную 26 сакавіка сёлета дэлегацыі БАЗА ў Вашынгтоне.

**Галоўная Управа БАЗА**

## 25 САКАВІКА Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ

Усьлед за традыцыяй мінулых гадоў мясцовы аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня супольна з афільяванымі пры ім арганізацыямі — Беларускім Жаноцкім Згуртаваньнем і Згуртаваньнем Беларускае Моладзі — урачыста адзначыў 46-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Сьвяткаваньне было зладжанае ў нядзелю 29 сакавіка ў залі беларускага грамадзка-царкоўнага цэнтру.

Пасьля сьв. Літургіі быў адслужаны а. прат. А. Крытам адмысловы Малебен ды сказанае ім-жа патрыятычнае казаньне. Беларускі нацыянальны сьцяг разам з амэрыканскім пры асысьце ганаровае варты ўвесь час быў падняты падчас Малебену.

Папаўдні адбылася ўрачыстая акадэмія. Пасьля ўступнага слова старшыні аддзелу БАЗА сп. М. Страпка, хорам быў адсьпяваны амэрыканскі гімн. Даклад, прысьвечаны сакавіковым угодкам, быў прачытаны сп. В. Лукашэвічам. Дакладчык падчыркнуў ідэялягічную сувязь і гістарычную пасьлядоўнасьць між Актам 25 Сакавіка й Паўстаньнем Кастуся Каліноўскага. Як у мінулым годзе на такім-жа сьвяткаваньні была сп. К. Кіслым падчыркнутая сотая гадавіна выбуху Паўстаньня 1863 году, так цяперака была зьвернутая ўвага на сотую гадавіну гэраічнай сьмерці правадыра Паўстаньня Кастуся Каліноўскага.

Пасьля гэтага сп. А. Семянчук прачытаў праклямацыю губэрнатара штату Огаё сп. Джэмса Родэса й праклямацыю мэра места Кліўленд сп. Ральфа Лёчэра пра абвешчаньне дня 25 сакавіка 1964 году „Днём Незалежнасьці Беларусі".

У мастацкай частцы, падгатаванай сп. К. Кіслым, як заўсёды, на высокім мастацкім узроўні, былі народныя танцы, выступленьні хору, дзіцячае аркестры ды салёвае выступленьне сп-ні Олі Лукашэвіч. Музычны акампаньямант быў сп-ні Олі Дубаневіч на акардыёне. Адсьпяваньнем нацыянальнага гімну акадэмія была закончаная. Ролю канфэрансье ў мастацкай частцы выконваў сп. Ул. Дунец.

**К. С.**

## 25 САКАВІКА Ў ЛЁС АНДЖЭЛЕС

Беларусы Лёс Анджэлес адзначалі 46-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі 5-га красавіка сёлета. Сьвяткаваньне ладзілася супольна мясцовым аддзелам БАЗА й прадстаўніцтвам БККА.

Праграма Сакавіковае Акадэміі складалася зь дзьвюх частак. У першую частку ўвайшлі: прырачэньне вернасьці (сказала сп-ня Ліза Арцюх), амэрыканскі гімн, малітва „Магутны Божа", адчытаньне прывітаньняў ад беларускіх арганізацыяў і амэрыканскіх урадавых дзеячоў (губэрнатара штату Каліфорнія сп. Браўна, мэра места Лёс Анджэлес сп. Ёртага, фэдэральнага сэнатара ад Каліфорніі сп. Т. Кукеля, кангрэсмэнаў К. Госмэра й Ц. Кінга) ды прынагоднага рэфэрату, які прачытала сп-ня Юзя Найдзюк.

Другая частка — мастацкая — складалася з наступных нумароў: верш „25-га Сакавіка", прадэклямаваны сп-няй Ядзяй Найдзюк, вершы „У госьці" й „Не хваліся", прадэклямаваныя сп-няй Карнэляй Найдзюк, песьня „Люблю наш край", якая была выкананая дзяцьмі ў нацыянальных вопратках. Далей былі прадэклямаваны сп. Ч. Найдзюком верш М. Машары „25-га Сакавіка", сп-ня Вера Вуіч прадэклямавала верш „Каханай старонцы", жартаўлівы расказ „Нагода пра Дзеда Міхея" прачытаў сам аўтар сп. Пётра Ермін.

Мастацкая частка была завершаная выступленьнем ведамай артысткі эстрады й опэрэты сп-ні Марыі Мяленьцевай, якая ў суправаджэньні дырыгэнта опэрэты сп. Алімпа Мяленьцева памастацку выканала наступныя нумары: урывак з опэры „Лясное возера", „Я табун сьцерагу", „Прыляцелі гусі", „Палыночак" і „Васількі".

Акадэмія закончылася беларускім нацыянальным гімнам „Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Пасьля Акадэміі адбыўся пачастунак, падчас якога прысутныя весела правялі колькі гадзін часу.

**А.**

## САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ Ў ЧЫКАГА

Задзіночаньне Беларусаў штату Ілінойс наладзіла сёлета сьвяткаваньне 46-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў нядзелю 22 сакавіка. Раніцай гэтага дня ў каталіцкай царкве Хрыста Збавіцеля а. Ян Тарасэвіч адправіў урачыстую літургію й сказаў глыбока патрыятычнае казаньне. Пасьля гэтага а.а. Ян і Ўладзімер Тарасэвічы адслужылі малебен за беларускі народ і ягоныя нацыянальна-вызвольныя імкненьні.

Папаўдні ў залі Беларускага Культурна-Рэлігійнага Цэнтру адбылася ўрачыстая Акадэмія. Спачатку быў адсьпяваны сп-няй Н. Градэ амэрыканскі нацыянальны гімн, пасьля чаго а. Я. Тарасэвіч сказаў спэцыяльна ўкладзеную ім малітву да Ўсявышняга за беларускі народ. Урачыстую Акадэмію адкрыў старшыня Згуртаваньня Беларусаў штату Ілінойс. Прывітаўшы прысутных ды падчыркнуўшы нацыянальную важнасьць сьвята, ён запрапанаваў хвілінай цішыні ўшанаваць памяць тых, што аддалі сваё жыцьцё за бацькаўшчыну. У гэты мамэнт праф. М. Куліковіч адыграў на фартапіяне жалобны марш.

Даклад аб ролі й значаньні Акту 25 Сакавіка прачытаў скарбнік Згуртаваньня Беларусаў штату Ілінойс сп. Антон Бяленіс. Пасьля гэтага віталі Беларусаў зь іхным нацыянальным сьвятам сп. Маркус ад Украінцаў і сп. Гарцэй ад Палякаў.

У мастацкай частцы ведамыя сьпявачкі сп-ня Н. Градэ й сп-ня А. Брушкевіч прасьпявалі некалькі беларускіх народных песьняў. Абедзьве былі ўзнагароджаныя бурнымі воплескамі. Сп. М. Жызьнеўскі добра прадэклямаваў верш Я. Купалы „Свайму Народу". Цікавым было выступленьне дзяўчынкі зь ігрою на піяніне — вучаніцы кампазытара М. Куліковіча, і прамова генэрала Дзямідава. Акадэмія была закончаная адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Пасьля Акадэміі бальшыня ейных удзельнікаў асталася ў залі, каб прыняць удзел у пачастунку, падрыхтаваным сяброўкамі Згуртаваньня. Пры гэтай нагодзе быў праведзены збор ахвяраў на Фонд Рады БНР.

### 25 САКАВІК У МЮНХЕНЕ

Угодкі Незалежнасьці ў Мюнхене беларуская калёнія адзначыла 22 сакавіка. Уводным словам урачыстасьць адчыніў старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Нямеччыне сп. Бортнік. Пасьля гэтага пралат Ул. Салавей змовіў малітву за Беларусь і Беларускі Народ. Рэфэрат аб гістарычным значэньні й вазе Акту 25-га Сакавіка прачытаў сп. Ул. Цьвірка. Пасьля яго голас забіралі іншыя ўдзельнікі ўрачыстасьці. Сьвяткаваньне прайшло ў шчырым і мілым патрыятычным настроі.

# МАСТАЦКІМ ТВОРЧЫМ ШЛЯХАМ

## ВЫСТАЎКА МАЛЯРСКАЕ ТВОРЧАСЬЦІ ПЁТРЫ МІРАНОВІЧА



П. Міранoвіч — Сын, Пастэль

Увосені 1962 году зь вялікай удачай прайшла, зладжаная ў Ню Ёрку Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва, выстаўка абразоў арыгінальнага, самабытнага мастака Віктара Жаўняровіча. У сакавіку-красавіку сёлета, зь ініцыятывы таго-ж Інстытуту, адбылася выстаўка малярскае творчасьці ведамага ўжо шырэй беларускаму грамадзтву выдатнага мастака-маляра Пётры Міpановіча.

В. Жаўняровіч і П. Міpановіч паходзяць з таго самага геаграфічнага абшару — беларускага Наддзьвіньня на вышыні Друі. Перад вайной дзяліла іх толькі дзяржаўная польска-латыская мяжа, а лучыла тая самая спрадвечная Дзьвіна, на якую Міpановіч угдядаўся з паўночнага лацьвійскага берагу, а Жаўняровіч з паўдня. Вось дзеля гэтага ў творчасьці абодвух мастакоў і сустракаем адбіткі тае самае сіняводнае Дзьвіны й тых самых краявідаў марэннае паўночнае Беларусі.

Выстаўка Пётры Міpановіча мела рэтраспэктыўны характар. На ёй былі паказаныя працы ўсяго ягонага творчага жыцьця — больш шасьцідзесяці алейных абразоў з трох перыядаў творчасьці: даваеннага на бацькаўшчыне, венскага й нюёрскага. Працы гэтых трох творчых адрэзкаў часу выяўляюць свае характэрныя асаблівасьці ў тэхніцы, калярыце, тэматыцы. Сваей жанравай размаітасьцяй і самым ужо лікам паказаных працаў выстаўка выявіла незвычайна шырокі творчы дыяпазон мастацкага таленту. Усе паказаныя на выстаўцы абразы — алейныя, з адным выняткам — партрэту сына мастака, выкананага пастэляй. Пытлівыя, шырока адкрытыя вочы хлапчаняці ўзіраюцца на нязьведаны навакольны сьвет і жыцьцё, што перад ім. Аглядаючы партрэт даводзіцца шкадаваць, што мастак ня даў больш прыкладаў свае дасканалае працы ў тэхніцы пастэляй.

З даваенных працаў пераважалі на выстаўцы бытавыя сцэны й краявіды Наддзьвіньня. Тут ведамыя ўжо шырэй з шматлікіх рэпрадукцыяў у друку абразы „Над Дзьвіной", „Бура на сенажаці", біяграфічнае вялікае дыплёмнае палатно „У сялянскай хаце", раскошны ў узвышаным мінорным асеньнім настроі пэйзаж „Даўгое возера", „Капліца на могілках у Прыдруйску", „Белая Царква ў Друі", „Паром на Краслаўцы", „Млын на Краслаўцы", чарада зімовых пэйзажаў — „Першы сьнег", „Зіма на Дзьвіншчыне", „Першы выезд", „На хутары ўзімку". Шмат сцэнаў з сялянскае працы — „Жніво", „Полудзень у жніво", „Мыцьцё бялізны", „Вываз гною" ды іншыя. На абразох шмат біяграфічнага, бачанага й перажытага беспасярэдня, найчасьцей — жыцьцё й праца блізкіх роднае вёскі.

Адрозныя й тэхнікай і тэматыкай абразы венскае пары творчасьці. На венскай Акадэміі Мастацтва ў гадох 1945-1947 Пётра Міpановіч паглыбляў сваю веду мастацтва й таму ня дзіва, што ў тэхніцы выкананьня абразоў гэтае пары адчуваецца выразны ўплыў венскае малярскае школы. Сюжэтна тут пераважаюць краявіды — віды Вены й яе аколіцаў. Зьвяртае ўвагу „Касьцёл сьв. Карлы ў Вене", „Палац Шонбрун", віды з ДП лягероў і кляштару ў Глязэнбаху, дасканалы венскі зімовы пэйзаж ды шмат малюнкаў з аколіц Вены. Усе абразы гэтае пары невялікага памеру — адбітак няпэўных умоваў вандроўнага жыцьця беларускага мастака-эміграцта часоў ДП.

З гледзішча мастацкае тэхнікі працы найнавейшыя, нюёрскія, гэта сынтэза дасягненьняў дзьвёх папярэдніх творчых пораў. Тэматычна тут, з аднаго боку, наварот да радзімых сюжэтаў першае пары творчасьці, а з другога — улучэньне ў рамкі творчага зацікаўленьня краіны свайго сучаснага прабываньня. Зь першае групы маем цікавыя варыянты сюжэтаў пары першае й, побач, абразы з зусім новымі сюжэтамі, маляваныя ўжо не, як даўней, з натуры, але з памяці. Гэта перасказаныя на палатне гамаю колераў успаміны з далёкае бацькаўшчыны. Спасярод іх кідаецца найлепш у вочы абраз „Ганкі ідуць" — шырокая эпічная панарама Дзьвіны з чарадой плытоў, што плывуць між хмарным небам над імі й адбіткам тых-жа хмараў у люстры вады пад імі. Прыцягвае таксама ўвагу экспрэсыйна-драматычная, зь цёмным небам у вагні маланак, „Бура ў жніво", ды жыцьцярадасная, у сьветлай гаме колераў, імпрэсыяністычна выкананая, „Вясковая вуліца ў нядзелю".

Зь нюёрскае тэматыкі на выстаўцы было паказана колькі пэйзажаў з Проспэкт Парку ў Брукліне ды дасканалы ў кампазыцыі й калярыце малюнак пляжы на Коней Айлэнд. Найнавейшая творчасьць мастака ўзбагацілася й новым жанрам — нацюрмортамі, якіх на выстаўцы было колькі. Букет пахучага бэзу на стале, побач яблыкі, ігрушы, гранкі сакавітага вінаграду, аранжыкі, віно, чара, бананы. Выкананьне ў клясычным традыцыйным стылі нацюрмортаў, беззаганнае ў гармоніі колераў і кампазыцыі. „Мёртвая натура" прадстаўленая ў мастака рэалістычна, плястычна, яна перад намі „як жывая".

Пётра Міpановіч выдатны майстра і ў галіне малярства партрэтнага. Побач малюнку сына пастэляй, маем на выстаўцы й загарэлы на ветры й сонцы сялянскі працавіты твар — „Партрэт бацькі", партрэт дзяўчыны-жняі, ды, зь венскае пары творчасьці, характэрны партрэт Аўстрыйкі. Выстаўка паказала, што мастак умее дасягнуць роўна высокія творчыя ўзроўні ў жанрава розных галінах — бытавой, пэйзажнай, партрэтнай, у нацюрмортах.

Важная й характэрная прыкмета творчасьці мастака тая, што прырода й краявіды роднае зямлі, людзі, іх праца й быт, адбітыя ў яго шчыра, беспасярэдня, натуральна, без хвальшывае ноты плыткога патосу, гэтак характэрнага сучасным падсавецкім мастаком Беларусі, якім маскоўскі партыйны канон „сацыялістычнага рэалізму" накідае мус штучнага казённага захапленьня абавязкава „радаснай" і абавязкава „шчасьлівай" галітой беларускае калгаснае вёскі. У Міpановіча-ж маем мастацкае выяўленьне перажытае беспасярэдня гістарычна-жыцьцёвае праўды й бяз штучнага патосу, і, адначасна, без таго саладкава-сьлязьлівага сэнтымэнталізму, якім калісьці гэтак захапляліся нашыя народнікі й нашаніўцы.

Выстаўка выявіла, што высокаякасная арыгінальная творчасьць мастака знаходзіць шырокае зразуменьне й прыхільны водгук сярод свае беларускае й чужое грамадзкасьці. Сьветчыць аб гэтым і вялікае зацікаўленьне выстаўкаю, і тое, што каля паловы выстаўленых абразоў было закуплена. Ды найважнейшае тое, што выстаўка навочна й пераконліва паказала, што малярская творчасьць Пётры Міpановіча застанецца багатым, трывалкім укладам у гісторыі беларускага мастацтва й культуры.

Р. М.



ПЁТРА МІРАНОВІЧ ГАНКІ ІДУЦЬ, АЛЕЙ

# 25-ТЫ САКАВІК У ПАРЫЖЫ

Беларуская калёнія Парыжа заўсёды прыкладае шмат увагі для належнага адзначэньня сьвята незалежнасьці Беларускага Народу. Сьвяткаваньне пачалося ад сьвятой Літургіі, якую адслужыў а. Леў Гарошка ў капліцы сьв. Людовіка (пры Бульвары Монтпарнас у Парыжы). Падчас Літургіі хор францускіх студэнтаў выконваў беларускія царкоўныя сьпевы XVI — XVII ст. Хорам кіраваў выдатны знаўца беларускай царкоўнай музыкі, праф. Дэ ля Прадэль. На Літургіі быў прысутны прэзыдэнт Рады БНР інж. Мікола Абрамчык із сям'ёй ды запрошаныя госьці-чужынцы.

Папаўдні адбылося ўрачыстае паседжаньне ў прыгожай залі на вуліцы Дэ Дам. Апрача Беларусаў прысутныя былі госьці — Французы, Харваты, Грузіны, Казакі, Украінцы. Урачыстасьць распачалася адыграньнем „Пагоні" кампазытара Равенскага. Пасьля старшыня Аб'яднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі сп. Наўмовіч папрасіў прэзыдэнта Рады БНР прамовіць да прысутных. Інж. М. Абрамчык у сваей прамове адзначыў поўнае банкруцтва савецкае палітыкі як у нацыянальнай, так і ў эканамічнай галіне, з чаго вынікае, што ўпадак савецкае імпэрыі нямінучы. Ужо сам назоў „Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублікаў", — гэта пустая кампазыцыя словаў, бо ў СССР у запраўднасьці няма ані „саветаў", ані сацыялізму (які падменены дзяржаўным капіталізмам), ані рэспубліканскага ладу, які зьвычайна характарызуецца палітычнымі, грамадзкімі й рэлігійнымі свабодамі грамадзян. Няма там і ніякога дабравольнага „саюзу", а толькі новая форма расейскага імпэрыялізму. Усьведамленьне поўнага банкруцтва свае палітыкі ёсьць прычынаю таго, што бальшавіцкая Масква гэтак баіцца дзейнасьці вольнае беларускае эміграцыі, якая на кажным кроку раскрывае ману й крывадушнасьць савецкае прапаганды.

Думкі прэзыдэнта М. Абрамчыка пацьвердзіў у сваей прамове старшыня Саюзу Камбатантаў Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы, палкоўнік Лянцкаронскі. Вельмі пахвальна аб беларускім мінулым выказаўся сп. Дэ ля Прадэль, які падчыркнуў вялікую дэмакратычную талерантнасьць правоў Вялікага Княства Літоўскага, што відаць з Літоўскага Статуту. Француз генэрал Дэ Ліні падзяліўся сваімі ўспамінамі з гадоў 1917-21, калі ён меў паўнамоцтвы ад беларускіх палітычных цэнтраў для рэпрэзэнтаваньня беларускага вызвольнага руху. Прадстаўнік ад Украінцаў сп. Кавальскі гаварыў аб тым, што нацыянальная сьведамасьць, гэта самае шляхотнае пачуцьцё чалавека, і яно толькі можа давесьці чалавецтва да лепшае будучыні.

Пасьля старшыня Наўмовіч прачытаў даклад, падчыркваючы гістарычнае значэньне Кастуся Каліноўскага, як першага змагара за нацыянальныя правы беларускага народу, па сьлядох якога пайшлі іншыя й давялі да Акту 25 Сакавіка. Сяньня Беларусы ўжо не адны, бо разам у вадным фронце цэлая пляяда народаў Эўропы й Азіі, і Беларусы маюць усе дадзеныя на тое, што даб'юцца свайго вызваленьня ў змаганьні з бальшавізмам і маскоўскім імпэрыялізмам. Афіцыйная частка ўрачыстасьці была закрытая адсьпяваньнем нацыянальнага гімну.

Пасьля беларускія арганізатары ўрачыстасьці гасьцілі прысутных пачосткаю з чаркай „зуброўкі". У прыязнай бясэдзе прысутныя дзяліліся ўспамінамі, паглядамі, думкамі. У сяброўскай атмасфэры мацаваўся супольны фронт змаганьня з бальшавіцка-маскоўскім сярэднявечным барбарствам.

В. С.

# 25 САКАВІКА Ў ДЭТРОЙЦЕ

46-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі Беларусы Дэтройту адзначалі 22 сакавіка ў залі Інтэрнацыянальнага Інстытуту. Прыгожа й густоўна ўдэкараваная заля беларускімі й амэрыканскімі сьцягамі ды эмблемамі была запоўненая да апошняга месца.

Акадэмія пачалася адыграньнем амэрыканскага нацыянальнага гімну, пасьля чаго старшыня аддзелу БАЗА ў Дэтройце сказаў уступнае слова. Добра падрыхтаваны даклад на тэму дня зь вялікай умеласьцяй прачытаў сябра аддзелу сп. Юрка Мазура (старэйшы). Акадэмію вёў віцэ-старшыня Ўправы аддзелу, які адчытаў праклямацыю губэрнатара штату аб абвешчаньні ў штаце Мічыган дня 25 сакавіка Днём Незалежнасьці Беларусі.

Мастацкая частка складалася із салёвых музычных нумароў і дэклямацыяў. Трэба адзначыць, што праграма мастацкае часткі выконвалася ў гэтым годзе вылучна моладзяй. Сьвяткаваньне закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Пасьля Акадэміі Жаноцкая Сэкцыя пры аддзеле БАЗА пад умелым кіраўніцтвам віцэ-старшыні гэтае Сэкцыі шчыра частавала прысутных надзвычай смачным амэрыканскім „панчам".

# САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ Ў АЎСТРАЛІІ

## У МЭЛЬБУРНЕ

Беларусы ў Мэльбурне адсьвяткавалі сваё нацыянальнае сьвята ў нядзелю 5 красавіка. Адсьвяткавалі ўрачыста і ўсе супольна, як і ўгодкі Слуцкіх Змагароў у мінулым годзе.

Пасьля Багаслужбы ў Беларускай АПЦаркве Трох Віленскіх Мучанікаў а. Аляксандар Кулакоўскі адправіў урачысты Малебен, канчаючы яго шматгодзьдзем за Вольную Беларусь, беларускі народ і ягоных змагароў. У сваім казаньні да шматлікіх прысутных Беларусаў, як праваслаўных, гэтак і каталікоў, ён падчыркнуў важнасьць сакавіковага сьвята ў працэсе вызвольнага змаганьня беларускага народу. Мноства кветак, беларускі сьцяг ды нацыянальная вопратка як у дарослых, гэтак і дзяцей падчыркваралі няштодзённую асаблівасьць Божае Службы гэтага дня.

Акадэмія, прысьвечаная Акту 25 Сакавіка, адбылася на Футскрэй — добра ведамай амаль усім Беларусам Мэльбурна залі. Беларускі й аўстралійскі сьцягі, вялікая Пагоня ды мноства кветак на сцэне, як і на прэзыдыяльным стале, рабілі сьвяточнае ўражаньне. Бел-чырвона-белыя сьцяжкі, прышпіленыя сп-няй Кукель і сп-няй Сенкевіч уваходзячым у залю, лучылі ўсіх удзельнікаў Акадэміі ў вадну вялікую беларускую сям'ю.

Акадэмія пачалася аўстралійскім гімнам, выкананым хорам пад кіраўніцтвам сп. П. М. Сп. Гірыс адчыніў Акадэмію, вітаючы прысутных із сьвятам і коратка насьвятляючы ягоны характар. Хвілінай цішыні й устаўаньнем была ўшанаваная памяць змагароў, што загінулі за Беларусь. Тады сп. А. К. прачытаў старанна й грунтоўна апрацаваны рэфэрат на тэму дня, прыпамінаючы аб важнейшых сакавіковых падзеях ды даўжэй затрымліваючыся на асобах Пранціша Скарыны, Кастуся Каліноўскага й Прэзыдэнта БНР Пётры Крэчэўскага. Адчытаньнем прывітаньняў, што былі прысланыя рознымі арганізацыямі й асобамі, закончылася афіцыйная частка Акадэміі.

На мастацкую частку зложыліся: дзьве песьні — „Падняты родны сьцяг дзяржавы" і „На выгнаньні" ў выкананьні мяшанага хору пад кіраўніцтвам сп. П. М.; дзьве дэклямацыі вершаў „Родны сьцяг" і „Родная мова" ў выкананьні Л. Гірыса й Я. Нікана; дзьве народныя песьні — „Васількі" й „Пасею гурочкі" ў выкананьні хору; дэклямацыя вершу М. Багдановіча „Пагоня" ў выкананьні сп. Душынскага; танец „Лявоніха" ў 4 пары ў выкананьні дзяцей Н. Грыцука, Я. Нікана, Г. Гірыса, М. Гуза, Я. Басарыновіча, Л. Гірыса, М. Басарыновіча й В. Тарашкевіча пад акампаньямант акардыёну сп. Лагуна. На заканчэньне мастацкай часткі быў паказаны сцэнічны абраз у ваднэй дзеі „Дух праўды духу зла непадуладны", напісаны й вырэжысараваны ведамым паэтам Алесем Салаўём і выкананы сп-няй Кукель, сп. сп. Душынскім, Русаком і самым аўтарам у галоўнай ролі.

Беларускім нацыянальным гімнам была закончаная Акадэмія. Доўга яшчэ ў залі й перад будынкам асталіся Беларусы й гутарылі на розныя беларускія тэмы.

М. Н.

## У СЫДНЭІ

Сябры Беларускага Аб'еднаньня ў Новай Паўдзённай Валіі зладзілі ўрачыстую Акадэмію з нагоды нашага нацыянальнага сьвята дня 4 красавіка ў Сыднэі. Удзельнікі быццам нясьмела ўваходзілі ў прыгожа прыбраную рэпрэзэнтацыйную залю Файрфілд Гатэль, дзе адбывалася ўрачыстасьць, але цёплае прывітаньне сябрамі ўправы й гукі беларускіх народных песьняў хутка даводзілі ім да ведама, які сяньня дзень. Рэфэрат аб Акце 25 Сакавіка прачытала старшыня Аб'еднаньня сп-ня А. Каранеўская. Яе цёплыя й поўныя патрыятычнага зьместу словы глыбока хвалявалі прысутных. Усе аднагодна адобрылі прапанову д-ра Я. Малецкага, каб тэкст рэфэрату быў надрукаваны ў газэце „Бацькаўшчына".

У мастацкай частцы паліліся мэлёдыі нашых родных песьняў—„Выхадзіла туча цёмная", „Калінка", „Вечарам за рэчанькай". У многіх сьлёзы былі на вачох, бо людзі прыпаміналі вобразы свае далёкае бацькаўшчыны, паняволенае бальшавікамі акупантам.

Супольным пачастункам, песьнямі, сяброўскімі гутаркамі й жартамі закончылася сьвяткаваньне.

Я. Лаўрыновіч

# УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Ў БРАДФОРДЗЕ

Дзень Незалежнасьці Беларусі ў Брадфордзе, Ангельшчына, быў адзначаны сёлета 29 сакавіка ў сваім Беларускім Доме. У беларускай праваслаўнай капліцы а. Я. Абабурка адслужыў сьв. Літургію й адмысловы малебен. Акадэмію адкрыў старшыня аддзелу Згуртаваньня Беларусаў Вялікае Брытаніі ў Брадфордзе сп. Янка Калбаса. Рэфэрат прачытаў сакратар Управы ЗБВБ — сп. Мак. Пасьля рэфэрату прысутныя адсьпявалі нацыянальны гімн.

Мастацкая частка пачалася выступам мясцовага Беларускага Юнацкага Клюбу. Сябры Клюбу, адзетыя ў прыгожую нацыянальную вопратку, выканалі беларускія народныя танцы „Лявоніху" й „Польку Янку". Тры народныя песьні прапяяў хор беларускае сыботняе школы ў Брадфордзе пад кіраўніцтвам сп. А. Буты.

Пры канцы мастацкае часткі ўдалым танцоркам і сьпявачкам быў уручаны падарак — патэфонныя пліткі. Таксама падзяка была выказаная сп. А. Буту, сп-ні Л. Міхалюк і сп. Ю. Хахолка, якія шмат працы паклалі ў падрыхтоўцы юнакоў. Усіх прысутных багатым банкетам частавала мясцовая жаночая сэкцыя.

# ШУКАЮЦЬ...

Сыноў Браніслава, 4 сакавіка 1923 г. нараджэньня, і Канстантына, 18 жніўня 1926 году нараджэньня, Рамаоўскіх шукае бацька Іван Рамаоўскі. Весткі кіраваць на адрыс:

Mr. John Ramanowski
97 Keymer St. Belmont, W. A.
Australia.

# ВЕСТКІ з КАНАДЫ

524 St. Clarence Avenue
T O R O N T O 4, Ont.
У справах зьвязаных з мата-р'яламі да друку, падпіскай або рэклямай, зьвяртацца;
Mr. A. Markievich,
127 Dovercourt Rd.
Toronto 3, Ont. Tel. LEnox 1-8009
або: Mr. K. Akula,
57 Riverdale Avenue
Toronto 6, Ont.
Tel. HOward 1-3992
Advertising rate — $ 1.25 per column inch

## ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ Ў ТАРОНТА





**Дастойны Стэнлі Гайдаш, Парлямэнцкі Сакратар Міністра Замежных Справаў Канады, вітае ад імя Прэм'ер Міністра Канады, вельмі дастойнага Л. Пірсана, прысутных на акадэміі, прысьвечанай 46-ым угодкам незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі. (Фото А. Маркевіча).**

Абвешчаньне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў Тароньце сьвяткавалі сёлета 22-га сакавіка. Падчас службы Божай у беларускіх сьвятынях дзякавалі Ўсемагутнаму за тое, што ўзнагародзіў мудрасьцяй і далёказорнасьцю тварцоў Акту 25-га Сакавіка, ды прасілі каб дапамог як найхутчэй вярнуць волю прыгнечанаму бязбожнай маскоўскай уладай беларускаму народу.

Акадэмія пачалася а 4 гадз. папаўдні ў вялікай славацкай залі на Дандэс вуліцы. Адчыніў і вёў яе сп-р Я. Пітушка, а асноўны прынагодны даклад меў сп. А. Грыцук. Ад канадыйскага ўраду і асабіста ад прэм'ер-міністра Л. Б. Пірсана прывітаньні й добрыя пажаданьні перадаў прысутны пасол сп. Ст. Гайдаш, а лідар Каралеўскай Апазыцыі сп. Дж. Дыфэнбэйкер вітаў сьвяткуючых тэлеграмай. Сп. Гросман вітаў ад прэм'ера Антарыйскага ўраду сп. Робартса, а сп. Дж. Бэн перадаў прывітаньні ад старшыні места Таронта Піліпа Гівэнса. Сп. Гросман казаў, што мінулай вясной ён быў у Савецкім Саюзе й мае ўражаньне, што людзям там шмат параскашнела. Трэшчыны паяўляюцца і ў зялезнай заслоне. Сьвяткаваньні такія, як беларускае, трэба праводзіць і прыгадваць людзям на ўсім сьвеце, што на вялікай частцы нашай плянэты няма яшчэ волі. А яна прыйдзе.

Аб захаваньні вольнасьцяў, дзе яны ёсьць, і дамаганьні, каб свабода была для ўсіх народаў, гаварыў у прывітальным слове й старшыня Антарыйскай Нова-Дэмакратычнай партыі сп. Данальд Макданальд. Уканцы выступаў і сп. Алан, шэф эміграцыйнага дэпартаманту Антарыя.

Прысутнічалі й прадстаўнікі паняволеных народаў: Армянаў, Эстонцаў, Чэхаславакаў, АБН, сп-ня Вэст — старшыня Інтэрнацыянальнага Інстытуту Таронта — і шмат іншых гасьцей.

У канцэртнай часьці народныя песьні сьпявалі сп-ня Мігай й сп-ня Гросараў (дачка сп-ні Мігай). Верш „Паўстань народ" Купалы дэклямавала выдатна д-р Раіса Жук. Дзеткі др. Рагулі Вітаўт і Рагнеда выканалі г. зв. мадэрны джаз і Крыжачок.

Сп. С. Шульга, калішні тэнар зь Менскай опэры, ізноў чараваў прысутных песьнямі „Беларусь — мая песьня", „З другам" — Семяняка й „Ручнік" — Даўгабарода. Акампаньявала яму сп-ня Майдан.

Найбольшай уцехай з усёй канцэртнай праграмы быў выступ з танцам Крыжака новазарганізаванага танцавальнага гуртка дзетак зь беларускіх школ у горадзе пад кіравецтвам Барыса Кіркі. Маткам належыцца ад нас удзячнасьць за тое, што падрыхтавалі прыгожую нацыянальную вопратку, Барысу Кірку шчырае дзякуй за яго працу пры навучаньні танцаў, а дзеткам — добрых і вялікіх посьпехаў на будучыню.

Урачыстасьць скончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

**М. К-р.**

## ГАДАВЫ СХОД

Гадавы сход Таронцкага Аддзелу ЗБК адбыўся ў нядзелю 5-га красавіка с. г. ў залі БР-ГЦ і быў адкрыты сп. В. К.-чам (выконваў абавязкі старшыні Управы). У прэзыдыюм сходу былі выбраныя сп. сп. В. Навіцкі й В. К-ч. Із справаздачаў было відавочна, што Аддзел парабіў шмат працы, хоць і заўважваліся недастаткі ў культурна-асьветных справах.

За мінулы год Управа Аддзелу зладзіла 10 вечарынаў і 2 пікнікі, а таксама, супольна з БНА, адзначыла тры нацыянальныя сьвяты ды несла ўвесь цяжар сплаты доўгу за БР-ГЦэнтр. На прапанову Наглядная Рады Сход удзяліў абсалюторыюм з падзякаю ўступаючай Управе ды выразіў падзяку сп. Е. Кірку за ягоную актыўную дапамогу ў працы Аддзелу. Пазьней быў пацьверджаны плян працы Аддзелу на гэты год, у васноўным такі-ж, што быў і ў мінулым, была толькі зьвернутая ўвага на тое, каб раз на тры месяцы рабіліся сходы Аддзелу.

У склад Управы Аддзелу на наступную кадэнцыю былі выбраныя сп. сп. М. Ганько — старшынёю й адміністратарам БР-ГЦ па лініі ЗБК, Я. Чорны — сакратаром, і Я. Б. — скарбнікам. Дэлегатамі на 15-ты Зьезд ЗБК былі выбраныя д-р Раіса Жук, М. Ганько й К. Акула.

**А.—віч**

ГАЛОЎНАЯ УПРАВА ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

— в і т а е —

ЎСЮ БЕЛАРУСКУЮ ПРАВАСЛАЎНУЮ ГРАМАДЗКАСЬЦЬ КАНАДЫ З НАГОДЫ СЬВЯТА ЎСКРАШЭНЬНЯ ХРЫСТОВАГА Й СКЛАДАЕ НАЙШЧЫРЭЙШЫЯ ЎСІМ ПАЖАДАНЬНІ!

ХРЫСТОС УСКРОС! ЗАПРАЎДЫ ЎСКРОС!

## ГАДАВЫ СХОД ПАРАХВІІ



**Прэзыдыя гадавога сходу Парахвіі сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. Сход адбыўся 15-га сакавіка ў залі БР-ГЦ.**

У нядзелю 5-га красавіка с. г. пры 1008 Довэркурт вул. у Таронта адбыўся гадавы парахвіяльны сход Парахвіі Сьв. Афрасіні Полацкай, сьвятаром у якой а. Віталі Сагайдакіўськый. Справаздачы зь дзейнасьці Царкоўнага Камітэту (старшынёю быў сп. П. Сладкоўскі) выявілі даволі актыўную працу Камітэту, хоць адзін зь сяброў часова й адпаў. Фінансавы стан таксама пацяшальны, паколькі сальдо за мінулы год дайшло блізу да 4-ох тысячаў даляраў. Царкоўны Камітэт і настаяцель а. Віталі атрымалі абсалюторыюм з падзякай. Новаабранаму Камітэту сход даручыў пачаць перамовы з парахвіяльнай Радай сьв. Кірылы Тураўскага ў справе злучэньня цэркваў на апрабованых умовах.

У склад новага Царкоўнага Камітэту ўвайшлі сп. сп.: М. Дуб — старшыня (ён-жа й стараста), І. Камінскі — заступнік старшыні, Б. Сладкоўскі — пратакольны сакратар, сакратар-рахункавод — сп-ня Пашкевіч і Л. Харавец — скарбнік. У Наглядную Раду ўвайшлі сп. сп.: М. Кухарчык, М. Жыбуль і В. Варанецкі.

**А.—віч**

### ДАПАМАГЛІ Ў БЯДЗЕ

Беларусы Ашавы вельмі хутка адгукнуліся з грашовай дапамогай ў суме 120 дал. для сп-ні Кашагуб і ейных 2-х ўнучкау, калі па волі лёсу сп. Мікалай Кашагуб апынуўся ў няшчасьці. На вялікую пахвалу за ўсё гэта заслугоўваюць сп. сп. Я. Яблонскі й Я. Рунда, бо-ж гэта зь іхнае ініцыятывы была дадзеная гэтак патрэбная дапамога.

У Тароньце сп. В. Крыванос вельмі чула аднёсься да ўжо даўно моцна хворага на сухоты сп. Собаля й таксама правёў сярод знаёмых і сяброў грашовую зборку на дапамогу. Гэта добрыя прыклады, вартыя ўвагі й насьледваньня. Сяброўская дапамога суродзічам у бядзе — найлепшая праява нацыянальнае салідарнасьці.

### ПАСЕДЖАНЬНЕ ГАЛОЎНАЕ ЎПРАВЫ

5-ае паседжаньне Галоўнае Управы ЗБК адбылося 1-га сакавіка гг. у Таронта. Разглядаліся справы скліканьня 15-га зьезду ЗБК. (гл. Камунікат), 6-ай сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў Нью Брансьвіку, супольнага адзначаньня 46-х угодкаў Акту 25 Сакавіка, справы зьвязаныя з рэдагаваньнем і фінансаваньнем газэты „Беларус" ды іншыя.

6-ае паседжаньне, 29 сакавіка, адбылося ў месьце Лёндане. На ім абмяркоўвалася дэтальней справа правядзеньня Зьезду ЗБК мадэрнейшым спосабам і ў адзін дзень, а таксама справы зьвязаныя з газэтай „Беларус" і мэмарандумам да Каралеўскае Камісіі Моваў і Культураў, ды некаторыя іншыя.

Чароднае, 7-ае, паседжаньне адбылося 19 красавіка ў месьце Брантфардзе.

### НОВЫ СКЛАД РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ „ВЕСТАК З КАНАДЫ"

На паседжаньні Галоўнае Ўправы Згуртаваньня Беларусоў Канады 29-га сакавіка 1964 г. было пастаноўлена пашырыць склад рэдакцыйнае калегіі „Вестак з Канады" да трох асобаў. Новы склад калегіі гэткі: Д-р Б. Рагуля — старшыня калегіі — і спадары К. Акула й А. Маркевіч — сябры. Усе матар'ялы да друку ў „Вестках з Канады" кіраваць на дасюлешні адрыс 524 Ст. Клярэнс Аве., у Таронта, або на адрысы сяброў рэдакцыйнае калегіі. За зьмест „Вестак" адказным зьяўляецца старшыня рэдакцыйнае калегіі. Гэтая пастанова ўваходзіць у сілу ад травенскага нумару „Вестак з Канады".

**Паасобнікі „Беларуса" можна купіць у Таронта ў украінскім кніжным магазыне „Арка" пры 575 Квін Стрыт Вэст між вуліцамі Спадайна й Бэтэрст.**

## КАМУНІКАТ № 3/63-65

**Галоўная Ўправа згуртаваньня Беларусаў Канады, Таронта, Антарыё**

**Да ўсіх управаў аддзелаў, сябровак, сяброў і прыхільнікаў З. Б. К.**
**У справе XV-га Агульнага Звычайнага Юбілейнага Зьезду**

Галоўная Ўправа ЗБК склікае, на аснове прынятай пастановы на паседжаньні ў Таронта дня 1-га сакавіка 1964 г., XV (Пятнаццаты) Агульны Звычайны Юбілейны Зьезд Дэлегатаў і Сяброўства З. Б. К. на **сыботу** 9-га травеня сёлета (9. 5. 64) у будынку БР-ГЦ пры 524 Ст. Клэрэнс Авэ., Таронта 4, пачатак роўна а гадз. 3-яй папаўдні, заканчэньне — а гадз. 7-ай пп.

У сувязі з гэтым Галоўная Ўправа заклікае ўсе Ўправы Аддзелаў правесьці Гадавыя Сходы ў сваіх аддзелах, выбраць Дэлегатаў на Зьезд ад кажных 5-ці сяброў, урэгуляваць справу аплаты складак сяброўства, як і разьліку з Скарбнікам Г. У., а таксама падрыхтаваць пісьмовыя справаздачы зь дзейнасьці Аддзелаў лістоўна й пераслаць іх да 15-га красавіка (15. 4. 64) на рукі Сакратара Г. У. у Таронта (з прылоўжанай лістай Сяброў Аддзелу). Галоўная Ўправа, у сваю чаргу, таксама пастараецца перадчасна выслаць лістоўна свае справаздачы зь дзейнасьці па Аддзелах, паколькі маецца наўвеце правесьці працы Зьезду ў 1 дзень у мадэрнейшы спосаб.

У сувязі зь юбілеем нашае Арганізацыі, у гэты-ж дзень ладзіцца юбілейная **вечарына** (пач. а гадз. 8-ай увеч.), наступнага дня Г. У. ладзіць, па ўрачыстым Набажэнсьцьве, якое будзе запрошаны адслужыць Прат. а. Міхаіл, **супольны абед.** Таксама мае быць выдрукаваны й лісток паангельску аб гісторыі ЗБК у Канадзе і інш.

Галоўная Ўправа прапануе наступны парадак працы XV-га Зьезду ЗБК:

1). Адкрыцьцё й прывітаньні;
2). Выбары Мандатнай Камісіі;
3.) Выбары Прэзыдыюму Зьезду;
4.) Прачытаньне Пратаколу папярэдняга Зьезду й дыскусыі над ім;
5.) Справаздачы Ўправаў Аддзелаў, Галоўнай Управы, Наглядная Рады й Сяброўскага Суду;
6.) Дыскусыі над справаздачамі й удзяленьне абсалюторыюм;
7.) Справа выдаваньня й фінансаваньня газэты „Беларус" — Канадыйскае выданьне.
8.) Плян працы й бюджэт на 1964 — 1965 год;
9.) Выбары кіраўнічых і кантрольных ворганаў ЗБК;
10. Рознае.

Галоўная Ўправа просіць Управы Аддзелаў, а таксама й Сяброўства ЗБК пераслаць свае заўвагі як і прапановы, што да працы самога Зьезду, так і павесткі дня і інш.

## ЯК ВЯСНА ПРЫЙШЛА...

8-га сакавіка Беларуская сыботняя школа ў Нью-Ёрку ладзіла вясёлую імпрэзу — дзіцячыя запусты — карнавал.

У праграме імпрэзы была вучнёўская самадзейнасьць, пасьля якое розныя гульні, скокі, ведама-ж, запусты...

На пачатку была п'еска-мантаж: „Як вясна прыйшла". Група вучняў, дзяўчат і хлопцаў, у беларускай нацыянальнай вопратцы „клікалі" Вясну.

Закліканьне вясны, стары і вельмі прыгожы звычай беларускага народу:

„Ты прыдзі, вясна жаданая,
прыдзі!..
На ўзгоркі, на нізіначкі зірні...
Пракацізя громам-музыкай ўгары.
Ты ідзі, нясі цудоўныя дары...

Выклікалі й заклікалі вясну па чарзе дзеці. Нібы ў вадказ на гэтыя словы адбываецца цудоўная зьмена навакол. Прылятае Цёплы Вецер, Матылёк... Краскі прачынаюцца — прыходзіць Вясна. Яе вітаюць краскі й дзеці, ёй у гонар сьпяваюць песьню.

І ня было, здаецца, нічога сумнага ў словах-дэклямацыях дзяцей, а як хвалявалі, як закраналі сэрца, а вочы чамусьці ў шмат каго туманіліся. Ад мастацкага пачуцьця-перажываньня, ад вычараванага дзіцячым голасам дарагога вобразу-міражу родных вобразаў, родных гоняў...

„Звоняць, звоняць ручаінкі
Пад узгоркам, у лагчыне,
А над імі, над вадою
Незабудкі чарадою
Сіняй сіняю пасталі.
Я — адна зь іх, ці пазналі?
Гляньце, ці-ж я не красуня?
Ня сіней нябёс над руняй?
Дык кажэце-ж усе хутка:
„Прывітаньне, Незабудка"!

Такой чыстай прыгожай мовай знаёмілася з гледачамі малая Незабудка.

Або:
У мяне, пралескі сіняй,
Яшчэ пальцы ранкам стынуць,
Але я усё-ж на сонца
Дзень увесь гляджу ў ваконца.
Я гляджу — і расьцьвітаю,
Я красой Вясну вітаю,
Хай-жа песьціць мяне Вецер,
Хай мне Сонца сьвеціць, сьвеціць!

Так маленькая Пралеска вітала Вясну. А малая Алеся, сьведамая свайго гонару быць Шыпшынай — сымбалем роднае Беларусі — пераконвала:

Хто з вас ня ведае шыпшыну?
Чырвоным цьветам я цьвіту,
„У ветры буйным не загіну,
Чарнобылем не зарасту.
Варожасьць шляху не зачыніць,
У перашкодах дух расьце".
Я — ваша родная Шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цьвет!

У паклоне Вясьне калыхаўся Чырвоны Мак, званіў ціхутка Званочак, расьцьвітала Рамонка. Шырака распасьціраў крылы такі каляровы прыгожы Матылёк, шапацеў, гуляў з краскамі лёгкі вясновы Вецер. Усе радаваліся й хваляваліся — бо Вясна прыйшла, русавалосая стройная прыгажуньня Вясна...

„У вянку з пралесак
У сьвятлянай шаце
Ходзіць борам-лесам,
Полем, сенажацяй...

Так віталі яе, праводзілі яе й прасілі:

„Вясна, вясна жаданая,
Ты прыдзеш зноў, ты вернешся!!

Наступнай інсцэнізацыяй была байка: „Чапля і Журавель". Вучні выканалі свае ролі сьмела, жартаўліва, прыгожа... Падзякай артыстым былі гучныя воплескі, прызнаньнем для настаўнікаў — посьпех вучняў. І посьпех гэты ўзапраўды быў. У тракце супольнае працы падчас рыхтаваньня пастановак школа як-бы акрэпла, вырасла ў працаздольную групу, якую ўжо будзе лягчэй весьці наперад да новае спробы сілаў, як у навуцы, так і ў мастацкай самадзейнасьці.

А тады быў карнавал: Слухалі аркестру сп. Каптуровіча, скакалі пад акардыён сп. Жыгаловіча, гулялі, бегалі. Было шумна й весела.

Усім прысутным за прыбыцьцё: Яго Высакапраасьвяшчэнству Уладыку Васілю, гасьцям, бацьком і дзецям дзякавала сп-ня З. Станкевіч, кіраўнічка школы, і прасіла ня надта крытыкаваць, бо-ж была добрая воля і з боку дзяцей, і настаўнікаў, і бацькоў.

Разыходзіліся, каб зыйсьціся ўзноў і разам у гурце правесьці некалькі надзвычай прыемных гадзінаў...

Хіба на месцы будзе тут назваць малых артыстых:

Вясна — Аня Бартуль, Матылёк — Ларыса Курыла, Вецер — Ніна Запруднік. Краскі: Незабудка — Рэгіна Куленіч, Пралеска — Ніна Абрамчык, Званочак — Юрка Кіпель, Мак — Пятрусь Пятрусэвіч, Рамонка — Маня Пятрусэвіч, Шыпшына — Алеся Кіпель. Дэклямавалі вершы Вясьне: Галіна Тумаш, Алесь Дударэвіч і Лідачка Данілюк.

Чапля — Дуня Куленіч, Журавель — Юрка Курыла. Аўтары: Ларыса Клінцэвіч, Ліля Куленіч і Юлік Мярляк. Іншыя дзеці вучні клікалі Вясну. Канфэрансье быў — гэта ўжо другі раз у нас — сп. Аўген Протас. Тэкст мантажу ў васноўным сп-ні — Натальлі Арсеньневай. Прыгатавала дзяцей — настаўніца З. Станкевіч.

## БЕЛАРУСКАЯ ПАТРЫЁТКА

Ведаем зь гісторыі выдатных беларускіх патрыётак, прыкладам, Рагнеду, сьв. Афрасіню Полацкую, Софію, матку Ягайлавічаў, жанчын, што вышывалі сьцяг слуцкім паўстанцам, што „Ішлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына". Немагчыма палічыць усіх жанчын, што выгадавалі дзяцей на беларускіх патрыётаў, і самі загінулі, як ахвяры маскоўскага бальшавізму.

Якая-ж роля беларускай патрыёткі цяпер? Даваліся мне нядаўна бачыць у тэатры гэткую сцэну: Маладая жанчына хоча закласьці школу для дзяўчат, каб выявіць свой патрыятызм у гэтай дзейнасьці. Адначасна паэта, патрыёта, старшы векам, хоча зь ёй жаніцца. Яна не згаджаецца выйсьці за яго замуж, хаця й любіць чытаць ягоныя вершы. Мае знаёмага студэнта, да каторага яе больш цягне. Яна ня можа пастанавіць, ці працаваць у школе, ці выйсьці замуж, ды за каторага зь іх? Просіць рады ў старшай прыяцелькі. Тая ёй кажа: „Радзіць я табе не магу, я толькі хачу, каб ты болей зразумела сваё пачуцьцё. Калі хочаш прынесьці ахвяру для народу, згадзіся із жаданьнем паэты. Шчасьце вялікага паэты ёсьць шчасьцем бацькаўшчыны". Дзяўчына пытаецца: „Зрабіла-б ты гэта на маім месцы?" Прыяцелька адказвае: „На тваім месцы напэўна. Гэта вялікае шчасьце быць жонкай славутага паэты. Жыцьцё на ягоным баку ня будзе штодзеннае. Павер, шмат якая патрыётка хацела-б быць на тваім месцы". Тут сцэна канчаецца.

Пераносім цяпер гэтую сцэну ў нашае штодзеннае жыцьцё. Ня будзем гаварыць аб славутых паэтах, але аб ідэйных Беларусах наагул. Некаторыя беларускія дзяўчаты адмаўляюцца выйсьці за іх замуж, бо ня могуць разабрацца ў сваіх пачуцьцях. Не стараючыся зразумець свайго пачуцьця, выходзяць замуж за мужчын іншых нацыянальнасьцяў. Калі вам свой народ дарагі й хочаце зрабіць яму дабро, згадзецеся зь ідэйным Беларусам. Шчасьце ідэйнага, рупнага Беларуса — гэта шчасьце бацькаўшчыны. Жыцьцё па баку ідэйнага Беларуса цікавае, няштодзеннае. Мужчына можа шмат болей зрабіць, калі мае пры боку разумную жанчыну. І няма большага шчасьця беларускай патрыёткі, калі можа сабе сказаць: „Муж зрабіў шмат для нашай бацькаўшчыны, бо я яму памагала".

М.

### СЬВ. ПАМ. ІВАН ВАЛЮКЕВІЧ

9 красавіка вечарам памёр у Клівелендзе ў собскай хаце ў прысутнасьці сям'і на 76 годзе жыцьця Іван Валюкевіч.

Жалобная служба па памерлым была адпраўленая а. прат. А. Крытом у тутэйшай БАПЦарквe ў суботу 11 красавіка й таго-ж самага дня адбыліся пахавіны на гарадзкім магільніку.

Сьмерць гэтага добрага суседа, грамадзяніна й парахвіяніна ня была неспадзеўкай. Апрача пажылага веку, у канцы 1963 году нябожчык меў паважную апэрацыю жывата, якая прарочыла яму лічаныя дні.

Нарадзіўся й правёў большую частку свайго жыцьця Іван Валюкевіч у вёсцы Залесьсе каля Жыровіцаў. Падзеі 1944 году закінулі яго зь сям'ёю ў Нямеччыну. Ягонае лягернае жыцьцё найдаўжэй было зьвязанае з Остэргофэнам, дзе якраз найлепш можна было пазнаць гэтага сьціплага й шчырага чалавека. Гэтыя глыбокія вартасьці нябожчык умеў перадаць сваім дзецям.

На памінках сп. К. Кіслы, як сусед памерлага з бацькаўшчыны, у памінальным слове падчыркнуў усе прыгожыя вартасьці гэтага чалавека.

Нябожчык асірацію жонку Зосю, дачку Марысю й сыноў Васіля, Янкі, Мікалая й Александра. **К. С.**

**УВАГА! УВАГА!**

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ „БЕЛАРУСА"!**

**Многім нашым чытачом да гэтага часу высылалася газэта ў доўг у надзеі, што падпісная плата будзе ўрэгуляваная імі пазьней. Нажаль, некаторыя зь іх і да гэтага часу падпісной платы не ўрэгулявалі. Гэты нумар высылаецца ім апошні, калі ў міжчасе ня будзе ўрэгуляваная падпіска.**

**Падпісная плата на год разам зь перасылкай каштуе ўсяго 4 даляры.**

**Грашовыя пераводы (чэкі й маніордэры) трэба выпісваць на Byelorussian-American Association, Inc. і перасылаць на адрыс:**

**Byelorussian-American Association, Inc.**
**National Headquarters**
**401 Atlantic Ave.,**
**Brooklyn 17, N. Y.**

**Галоўная Управа БАЗА**

### БЕЛАРУСЫ ПРАТЭСТАНТЫ

У Задзіночаных Гаспадарствах і Канадзе ёсьць тысячы Беларусаў-пратэстантаў, галоўна баптыстых і евангелікаў, а па крысе й іншых. Толькі часьць іх нацыянальна сьведамая (ідэйная).

Сьведамыя, як і нясьведамыя, не складаюць асобных цэркваў беларускіх, але належаць да цэркваў чужых, галоўна расейскіх і польскіх, меней да ўкраінскіх; у першых дзьвюх Беларусаў вялікі працэнт (у расейскіх да 95 прац.) Ёсьць ладне й Беларусаў—пратэстанцкіх сьвятароў, але йзноў адно часьць іх нацыянальна сьведамая, дый гэтыя ня выказалі дагэтуль патрэбнай рупатлівасьці, каб вывальнаць сваіх беларускіх вернікаў ад выкарыстаньня іх чужынікамі, каб вера каторую яны прынялі, ня была сродзівам іх нацыянальнага паняволеньня. Харошым выняткам з паміж пратэстанцкіх Беларусаў ёсьць казаньнік Тарас Сайка ў Мінэаполіс, стэйт Мінэсота. Ён усім сэрцам адданы Богу й свайму народу. Тарас Сайка чалавек глыбокага розуму, вялікай рупатлівасьці і ўпорыстасьці ў дасяганьню сваіх ідэйных мэтаў. Дзякуючы старанью ягонаму, арганізавалася ў Мінэаполіс Вялікалітоўскае (Беларускае) Біблійнае Брацтва. **Др. Я. Ст.**

### НА СУСЬВЕТНАЙ ВЫСТАЎЦЫ

26 красавіка сёлета адбылося адчыненьне нацыянальных праграмаў на Сусьветнай Выстаўцы ў Нью Ёрку. Гэта быў „Амэрыканскі Дзень" з удзелам прадстаўнікоў ад многіх нацыянальнасьцяў. Ад Беларусаў былі сп-ня Аля Орса-Романо, сп-ня Ніна Каваль і сп. Аўген Несьцяровіч. Нашая група трымала ў часе адчыненьня праграмы беларускі нацыянальны сьцяг.

Пры гэтай нагодзе хочам напомніць нашым чытачом, што Беларускі Народны Фэстываль на Сусьветнай Выстаўцы адбудзецца 21 чырвеня сёлета. Усё дакладна аб гэтым вялікім беларускім канцэрце будзе надрукавана ў наступным нумары „Беларуса".

Таксама яшчэ хочам прасіць усіх, хто зьбіраецца пайсьці на Выстаўку, каб білеты куплялі ў нашай арганізацыі. Білеты можна набыць у сп. М. Тулейкі і ў сп. А. Несьцяровіча.

### „НЁМАН" ПЕРАМОГ

25 красавіка ў Нью Гэйвене адбыліся валейбольныя спаборніцтвы, арганізаваныя Саюзам Украінскаамэрыканскіх Спартовых Таварыстваў. У спаборніцтвах прыймала ўдзел 3 жаночыя й 5 мужчынскіх дружынаў. У спаборніцтвах мужчынскіх дружынаў першае месца здабыла ведамая беларуская саўтрывэрская дружына „Нёман", якая перамагла ўкраінскія дружыны з Пасэйку, зь Нью Ёрку, „Чорноморцаў" Пласта й нюёрскую дружыну СУМУ.

## ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ Ў АМЭРЫЦЫ, АДДЗЕЛ У КЛІУЛЕНДЗЕ

**Паважаныя Суродзічы!**

Вялікім недахопам нашым на эміграцыі ёсьць нястача падручніка Гісторыі Беларусі. Разьехаўшыся з Эўропы на сталае пражываньне ў розныя краіны сьвету, нашыя людзі сваё матарыяльнае становішча папраўлялі, у выніку чаго ўжо выйшла ці мала добрых беларускіх кніжак. Але Гісторыі Беларусі пакуль што яшчэ ніхто ня выдаў. А патрэба такога выданьня з кажным годам павялічваецца. Павырастала шмат моладзі, якая пра Беларусь вельмі мала ведае й ня мае адкуль папоўніць свае веды. Паадкрываліся беларускія школы, а без падручніка вучыць вельмі цяжка. Навет і дарослым, што калісьці вучыліся, часам добра заглянуць у кнігу.

Згуртаваньне Беларускай Моладзі ў Кліўлендзе выдала шмат добрых рэчаў, што некаторыя, здавалася-б, з розных прычынаў, асабліва фінансавых, былі звыш ягоных магчымасьцяў. Дзякуючы падтрыманьню нашага грамадзтва мы перамаглі ўсе цяжкасьці. І яшчэ шмат што выдаём ды падрыхтоўваем да друку.

Цяпер задумалі выдаць „Нарыс Гісторыі Беларусі". Гэтая кніга мае абыймаць гісторыю нашага народу ад прагістарычных часоў аж да сяньняшніх дзён. Велічыня кнігі будзе каля 400 бачынаў нармальнага кніжнага фармату. Аўтарам зьяўляецца былы выкладчык беларускае гімназіі ў Нямеччыне. Ратарам выдаваць такую кнігу было-б грэшна й сорамна кажнаму Беларусу. Таму зьвяртаемся да ўсіх Вас, Дарагія Суродзічы! Прысылайце перадплату й ахвяры на наступны адрыс:

Mr. K. KALOSHA
3517 West 25-th St.
Cleveland 9, Ohio

Хай кажны Беларус прыйме ўдзел у гэтай акцыі, а зробім вялікаю справу.

Спадзяёмся й моцна верым, што гэты наш заклік будзе прыняты кажным Беларусам, за што наперад шчыра дзякуем.

**Кіраўніцтва Аддзелу**

### СКАРЫНА Ў МАСКВЕ

**Сымон Брэга — Доктар Скарына ў Маскве.** Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Нью Ёрк — Мюнхен, 1963 г., бачынаў 32.

У працы, на падставе архіўных матар'ялаў і гістарычных фактаў, першы раз шырэй апісаная справа падарожжа доктара Францішка Скарыны да Масквы ды публічнага спаленьня тамака, на загад маскоўскага князя Васіля Івановіча, кнігаў ягонае беларускае Бібліі.

Гэтая, нядаўна выяўленая й маляведамая драматычная прыгода ў жыцьці выдатнага беларускага гуманісты й першадрукара разгледжаная ў працы на фоне палітычных і культурных дачыненьняў тагачаснае Маскоўшчыны й Літвы. Кніжыца каштуе 50 цэнтаў. Выпісваць можна на адрыс:

Whiteruthenian Institute of Arts
and Sciences, Inc.
3441 Tibbett Avenue
New York, N. Y. 10463

**(ПЛАТНАЯ АБВЕСТКА)**

**Патрэбныя вучыцелі вучыць пісаць пабеларуску** на курсах пісаньня беларускага, на каторых заняткі ў бліжэйшым часе пачнуцца ў Нью Ёрку. Наўперад на курсы будуць прыняты сябры Беларускага Кангрэсавага Камітэту й Рады Нюёрскае Акругі БАЗА, каб яны неўзабаве ўмелі напісаць пабеларуску.

(Арганізатары курсаў просяць выбачэньня, што, зь незалежных ад іх прычынаў, заняткі на курсах троху спазьніліся, і менаваныя Высокія Кіраўніцтвы не маглі на адправу ўгодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі пасланьня пазваньняў, надрукаваных пабеларуску). Пасьлей пяршынство прыйма на курсы будуць меці бацькі тых, што жэняцца або выходзяць замуж, каб пазваньні на вясельле маглі быць пабеларуску.

Навука — подля праграмы ніжшае пачатнае школы — на курсах дармавая. Вучыцелі-ж адзяржаць плату подля ўмовы зь імі, ня ніжшую за плату кваліфікаванага работніка; звыш час абавязкавы.

Запісавацца, вучыцелям і вучанікам, на курсы трэба ў Бюры беларускага пісьма, 956389 E. 14389 Ст. Н. У. С.

**Бюро беларускага пісьма**